

"НЕ ПАКІДАЙЦЕ-Ж МОВЫ НАШАЙ БЕЛАРУСКАЙ, КАБ НЯ УМЕРЛІ!"
Францішак Багушэвіч

# БЕЛАРУСКІ СЬВЕТ
## BYELORUSSIAN WORLD

NO. 5 (34) - 1979

# АЛЕСЯ

Словы **А. КУЛЯШОВА** Музыка **І. ЛУЧАНКА**

САРДЭЧНА, НЕ СПЯШАЮЧЫСЯ

*mp*

Бы_вай, а_бу_джа_на_я сэрцам да_ра_га _я. Ча_

_му так гор_ка, не ма _ гу я зра_зу_мець.

Шка_да за_ран_кі мне, што ў не_бе да_га_ра _ е

Прыпеў: *mf*

на ўсхо_дзе дня май_го, я_ ко_му ру_жа_вець. Пайшла, ні _

_ко_лі ўжо не вер_неш_ся, А _ ле _ ся. Бы_вай, сму_

*mp*

_гля_ва_я, ка_ха_на_я, бы_вай. Ста _ю на

рос_та_нях бы_лых, а з пад_ня_бес _ ся са_мот_ным

1. *mp* 2. *allarg.*

жаў_ран_кам звініць і пла_ча май. Пай_ //май.





Бывай, абуджаная сэрцам дарагая.
Чаму так горка, не магу я зразумець,
Шкада заранкі мне, што ў небе дагарае
На ўсходзе дня майго, якому ружавець.

**ПРЫПЕЎ:**

Пайшла, ніколі ўжо не вернешся, Алеся.
Бывай, смуглявая, каханая, бывай.
Стаю на ростанях былых, а з паднябесся
Самотным жаўранкам звініць і плача май.

Пайшла, пакінуўшы мне золкі і туманы,
Палынны жаль тугой ахутаных дарог,
Каб я хвілінаю нанесеныя раны
Гадамі ў сэрцы заглушыць сваім не змог.

**ПРЫПЕЎ:**

Пайшла, ніколі ўжо не вернешся, Алеся.
Бывай, смуглявая, каханая, бывай.
Стаю на ростанях былых, а з паднябесся
Самотным жаўранкам звініць і плача май.

## Францішак БАГУШЭВІЧ пісаў...

*"Братцы мілыя, дзеці Зямлі — Маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, ды і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя, "мужыцкай" завуць, а завецца яна "беларускай".*

*... І пераканаўся я, што мова нашая такая-ж людзкая й панская як і французская, альбо нямецкая, альбо й іншая якая. Чытаў я цімала старых папераў па дзьвесьце, трыста гадоў таму пісаных у нашай зямлі і пісаных вялікімі панамі, а нашай мовай чысьцюсенькай, як-бы вот цяпер пісалася.*

*... Наша мова для нас сьвятая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцом, і гаворым-жа мы ёю шмат і добрага, але так ужо мы самі пусьцілі яе на зьдзек, не раўнуючы, як і паны вялікія ахвотней гавораць па-французску, як па-свойму.*

*... Ці-ж ужо нам канешне толькі на чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а навет трэба знаць суседзкую мову, але наперш трэба знаць сваю.*

*... Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек перад скананьнем, катораму мову займе, а потым і зусім замерлі. Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі! Пазнаюць людзей ці па гаворцы, ці па адзежы, хто якую носе: ото-ж, гаворка, язык і ёсьць адзежа душы.*

*... Мoжа хто спытае: дзе-ж Беларусь? Там, братцы яна, дзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мазыра, ад Віцебска за малым не да Чарнігава, дзе Гродна, Менск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...*

*Мацей Бурачок.*



## ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ

Францішак Багушэвіч нарадзіўся 21-га сакавіка 1840 г. у фальварку Сьвіраны, недалёка ад Вільні, дзе бацька ягоны арандаваў зямлю. Хутка аднак сям'я Багушэвічаў пераехала ў свой фальварак Кушляны Ашмянскага павету б. Віленскай губэрні. Тут і прайшло дзяцінства будучага паэты.

Сярэднюю асьвету Ф. Багушэвіч атрымаў у Вільні, скончыўшы ў 1861 г. гімназію. У тым-жа годзе ён запісваецца на фізыка-матэматычны факультэт Пецярбурскага ўнівэрсытэту. Але вучыцца там доўга яму не ўдаецца. Гэта была пара бурных палітычных хваляваньняў студэнтаў, і Ф. Багушэвіч прымаў у іх актыўны ўдзел. Яго звольнілі з унівэрсытэту, і ён вярнуўся дадому, у Кушляны. Тут стаўся настаўнікам народнай школы ў сяле Доцішкі, блізка ад Кушлянаў.

Калі ў Беларусі ўспыхнула паўстаньне 1863-64 гг., малады настаўнік узяў у рукі зброю й пайшоў біцца супраць расейскага акупанта. Быў нат паранены ў баі. За ўдзел у паўстаньні ўся сям'я Багушэвіча была арыштаваная. Сам ён ня трапіў у турму толькі таму, што паўстанцкі аддзел, у якім ён змагаўся, быў паза Ашмянскім паветам, дзе Ф. Багушэвіча ўлады ня ведалі.

Па ўпадку паўстаньня, каб застацца на волі, ён змушаны быў выехаць з Беларусі. Ф. Багушэвіч выязджае на Украіну. Там у 1868 г. канчае Нежынскі юрыдычны ліцэй і пачынае працаваць сьледчым у Чарнігаве, Канатопе й іншых месцах. У 1884 г. яму ўдаецца вярнуцца ў родны край. Ён пасяляецца ў Вільні й працуе адвакатам у акруговым судзе.

Пісаць Ф. Багушэвіч пачаў яшчэ на Украіне, але сур'ёзна літаратурнаю працаю заняўся толькі цяпер у Вільні. Пісаў вершы, паэмы, байкі й апавяданьні. Спрабаваў пісаць таксама й папольску, але гэтыя творы ў польскай літаратуры вялікага значаньня ня маюць. У гады, калі паэта жыў у Вільні, ён супрацоўнічаў як публіцысты ў пецярбурскім польскім часапісе "Край".

Апошнія гады свайго жыцьця паэта пражыў у Кушлянах. Хвароба змусіла яго пайсьці на адпачынак і пераехаць у вёску. Памёр Ф. Багушэвіч 28-га красавіка 1900 г. Ягоная блізкая сяброўка, польская пісьменьніца Эліза Ажэшка,



### ГОРА

**Каб мне голас добры мець,**
**Каб мне гора куды дзець,**
**Каб-жа гора Бог ня даў, —**
**Я-б вясёла засьпяваў:**
**Ой, гора-ж маё!**

**Склаў я гора у аклунак,**
**Склаў бяду сваю, фрасунак,**
**Кінуў ў рэчку аж да дна, —**
**Прыйшло гора, як штодня.**
**Ой, гора-ж маё!**

**Узяў я гора ды ў анучу,**
**Кінуў ў полымя-агонь,**
**Ніяк гора не замучу:**
**Гора горам, як штодзён.**
**Ой, гора-ж маё!**

**Узяў я гора — ды на вожжы,**
**Завёў ў лес, скруціў да пня,**
**Заўтра гора, як сьвет Божы,**
**Ўлезла ў хату, як штодня.**
**Ой, гора-ж маё!**

**Склаў я гора ды у дошкі,**
**Закапаў у велькі роў,**
**Адыйшоў ад ямы трошкі,**
**Аж у хаце гора зноў.**
**Ой, гора-ж маё!**

**Завярнуўшы у салому,**
**Гора ў лапаць палажыў,**
**Абуў лапаць, сышоў з дому:**
**Гора горам, лапаць згніў.**
**Ой, гора-ж маё!**

**Склаў я гора у тарбіну,**
**Аж у Мерыку адвёз, —**
**Думаў: тут або я згіну,**
**Або з гора будзе лёс.**
**Ой, гора-ж маё!**

**Дык і тут няма пакою:**
**З горам лёг і з горам ўстаў;**
**Мусіць Бог яго з душою**
**Разам возьме, разам даў!**
**Ой, гора-ж маё!**

калі даведалася ў Горадні пра сьмерць паэты, пісала: "Памяць памерлага Ф. Багушэвіча цаню вельмі высака і вестку пра сьмерць ягоную прымаю із сардэчнаю сьлязою. Ён быў адным із выдатнейшых людзей, якія служылі нашай зямлі, а для мяне асабіста — адным із вельмі нямногіх прыяцеляў. Успаміны пра яго для мяне дарагія і сумныя".

Пры жыцьці Ф. Багушэвіча выйшлі ў сьвет два зборнікі ягоных вершаў і паэмаў, выдадзеных ім нелегальна замяжою: "Дудка Беларуская" (Кракаў, 1891 і 1896 гг.) і "Смык Беларускі" (Пазнань, 1894 г.). У 1892 г. у Кракаве выйшла апавяданьне "Тралялёначка". Ф. Багушэвіч падрыхтаваў таксама да друку зборнік вершаў "Скрыпачка Беларуская" і зборнік апавяданьняў "Беларускія расказы", але яны сьвету не пабачылі, а тэксты іхныя дагэтуль не адшуканыя. Доўгі час творы ягоныя выдаваліся нелегальна ці пашыраліся ў рукапіснай форме. 13 вершаў былі надрукаваныя ў зборніку "Песьні", выдадзеныя нелегальна ў 1903 г.

**В. ПАНУЦЭВІЧ**

## ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ

( 1840 - 1900 )

У бягучым 1979 г. спаўняецца 139 год ад нараджэньня выдатнага беларускага паэты й барацьбіта за вызваленьне роднага Краю з маскоўскае нявол **Францішка Багушэвіча.** Нарадзіўся ён 9/21 сакавіка 1840 г. у сям'і дробнага шляхціча, у фальварку Сьвіраны Віленскага павету Віленскай губэрні. Да апошняга часу гаварылася і пісалася ў розных друках быццам ён нарадзіўся ў Кушлянах, Ашмянскага павету. Аднак архівальныя дакументы знойдзеныя дасьледнікамі С. Аляксандровічам і Г. Кісялёвым, ясна паказваюць на **Сьвіраны.** Аб гэтым пісаў Г. Кісялёў у сваім дасьледываньні «Гімназіяльныя й студэнцкія гады Ф. Багушэвіча», 1962, што яны знайшлі ў Вільні ў матарыялах Цэнтральнага Гістарычнага Архіву ЛССР сярод актаў мэтрыкі Рукойскага касьцёла за 1840 г. і запіс аб нараджэньні Ф. Багушэвіча, дзе ясна сказана ў «фальварку Сьвіраны, Віленскага павету».

Цяпер Сьвіраны ўваходзяць у склад Жэмайцескага сельсавету, Віленскага раёну. Гэта 25 км. ад Вільні па Менскай шасе, па правай старане шасы, пры невялічкай

рэчцы, стаяць тры хаты. Пад старым мостам з круглякоў, астанкі запруды (магчыма тут некалі быў млын). Вакол, па схілах узвышшаў, цягнуцца палі. Гэта і ёсьць радзіма Ф. Багушэвіча Сьвіраны. Сяляне, якія тут жывуць, пасяліліся ў Сьвіранах яшчэ да рэвалюцыі, але ня памятаюць сядзібы фальварка, але ўспамінаюць, што арэндавалі зямлю ў «бацюшкі».

Якое дачыненьне мелі да Сьвіран бацькі Ф. Багушэвіча — дасюль няведама. Хутчэй за ўсё яны арандавалі фальварак. Імёны Казіміра й Канстанцыі Багушэвічаў даволі часта сустракаюцца на бачынах мэтрычных кнігаў Рукойскай парахвіі. Вось некаторыя факты: у 1836 г. у іх нарадзіліся блізьняты: Апанас і Нарцыс, якія хутка памерлі. Праз два гады ў Сьвіранах сьвяткавалі нараджэньне дачкі Ганны-Казіміры-Юльяны (1838). Потым нарадзіўся **Францісь-Бэнадыкт Багушэвіч** (1840). Цераз год — яшчэ адзін сын — Валеры-Язафат (1841). На гэтым годзе канчаецца запіс у мэтрычных кнігах касьцёла ў Рукойску, адносна Багушэвічаў. Малодшы ад Францісься сын Багушэвічаў **Апалінары** ўжо нарадзіўся ў 1846 г. у Кушлянах, Ашмянскага павету, недалёка ад Жупранаў (Акты, Віл. пав. суд) Значыць бацька сям'і Казімір Багушэвіч у гадах між 1841 і 1846 ужо перабраўся з фальварку Сьвіраны, Віленскага пав. **у фальварак Кушляны, Ашмянскага павету.** Тут і прайшло дзяцінства **Францішка Багушэвіча, будучага паэты.**

Што сабою прадстаўлялі Кушляны, Ашмянскага певету ў той час, можам мець уяўленьне з кароткай зацемкі са «Геаграфічнага Слоўніка Каралеўства польскага і іншых славянскіх краёў» (том IV, Варшава, 1883, б. 952). Слоўнік пад назвай «Кушляны» аб'ядноўвае групу пасёлкаў, паложаных за 21 вярсту ад Ашмянаў: 2 вёскі, 2 фальваркі, шляхоцкую ваколіцу і шляхоцкі хутар. Дадзеныя за 1866 г.

Больш дакладныя весткі падае «Поўны сьпіс населеных мясьцінаў, Віленскай губерні» за 1905 г. Тут у Сольскай воласьці, Ашмянскага павету пад назвай Кушляны значыліся два маёнткі, адзін Сулістроўскага, другі Тымкоўскага, два фальваркі, адзін Багушэвіча, другі Яцэвіча, два засьценкі і дзьве вёскі: Кушляны I і Кушляны II. Пра фальварак **Багушэвіча** сказана коратка: жыхароў 27 (12 мужчын і 15 жанчын), дзесяцін 172, павятовы горад (Ашмяны) за 18 вёрст, валаснoе праўленьне — за 8, станавая кватэра — 6, чыгуначная станцыя Солы 15 вёрст.

Мяркуючы па тым, што ў 1864 г. у хвальварку Багушэвічаў праводзіліся рэвізкія працы, зьвязаныя з Зямельнай рэформай 1861 г., выявілася, што Казімір Багушэвіч, бацька паэта, уладаў некалькімі сялянскімі дварамі. Да яго належала таксама некаторая плошча лесу. Відаць, што рэвізія ацаніла маёнтак Багушэвіча ня высока, бо ў «Ведамасьцях аб вучнях Віленскай гімназіі» пад 31 кастр. 1860 годам маецца гэткая запіска аб малодшым Апалінарым Багушэвічу: «сын беднага двараніна, абцяжанага сям'ёю, выхоўваюцца на утрыманьні бацькі тры сыны і адна дачка». Такім чынам сын Багушэвіча, маючы пасьведку аб беднасьці ад маршалка дваранства, быў звольнены ад платы за навуку ў Віленскай гімназіі...

Калі Багушэвічам, маючым 172 дзесяціны зямлі і кусок лесу, не хапала сродкаў на адукацыю сваіх дзяцей, то што гаварыць пра сялянаў. Усё гэта ведаў будучы паэт з свайго собскага дазнаньня ды навакольнага сялянскага быту. Вось хаця-б такія радкі Ф. Багушэвіча ці-ж не з собскага дазнаньня:

Га! Чаму-ж ня граеш?
Хіба ты ня знаеш,
Ня ведаеш хіба,
Што, як тая рыба
Ды на лёдзе б'ецца,



Так і я, здаецца,
СОРАК ГАДОЎ б'юся,
Ніяк не зьвярнуся,
Ніяк не натраплю
Вадзіцы хоць каплю,
Ды такой вадзіцы,
Ды з такой крыніцы,
Што, як хто нап'ецца,
Дык вольным стаецца.
Грай, вясёла-ж грай.
Або долю дай!
. . . . . . . . . .

«Мая дудка»

Ня было тады ані «жывой вадзіцы», ані вясёлых песьняў у народзе. А што было:

Там быў аканом, камісар і цівун,
Намесьнік, лясьнічы, хмістрыня, паны,
І кожны меў права ўзяць за бізун,
І кожны меў права да нашай сьпіны.

(«Быў у чысцы»)

Адчуў малады Багушэвіч і іншае гора беларускага народу. Гэта маскоўскі прасьлед веры. Вось чаму паэзія Багушэвіча ў змаганьні за поўнае вызваленьне беларускага народу ўздымае высока сьцяг барацьбы супраць эканамічнага, палітычнага, нацыянальнага і рэлігійнага гнёту ды гвалту.

Але пакульшто будзьма пасьлядоўнымі. **Францішак Багушэвіч** быў усёж-ткі «дваранскага паходжаньня», што давала яму дарогу да сярэдніх і вышэйшых школаў, а гэта значыць атрымаць асьвету і пульс жыцьця ўсяго сьвету.

У Віленскую Гімназію паступіў ён, мабыць, у 1852 г. Аб гэтым можна мяркаваць з запісу дырэкцыі гімназіі з 1856 г., калі ён быў вучням 4-ай клясы, і што ён паступаючы ў гімназію 11 лістапада 1852 г. «па беднасьці» быў звольнены ад платы за навуку.

Дакладней кажучы, Ф. Багушэвіч спачатку вучыўся не ў самай гімназіі, але ў чатырохклясавым аддзеле — дадатку да гімназіі. Справа ў тым, што ў 1839 г., пасьля падаўленьня лістападавага паўстаньня і закрыцьця Віленскага Унівэрсытэту (1832), паўстала перад царскім урадам праблема, як забясьпечыцца ў будучыні перад падобнымі паўстаньнямі, дык у названым 1839 годзе была створаная 4 клясная прыбудоўка пры Віленскай Гімназіі для тых вучняў, якія добра ня ведаюць расейскай мовы. У гэты аддзел быў лёгка прыняты на кошт дзяржавы і Ф. Багушэвіч. Так Віленская Гімназія (расейская) і 4 клясавы да яе дадатак памяшчаліся ў «Сьвятаянскіх мурох», Унівэрсытэту, зачыненага у 1832 г. Тут у той час у шафах гімназіі ды ва ўсім будынку зачыненага Віленскага Унівэрсытэту, поўна было кніжак, часапісаў, дакумантаў і розных матарыялаў, даступных для гімназістаў. Такім чынам малады Ф. Багушэвіч меў магчымасьць карыстацца літаратурай, што перахоўвалася ў б. унівэрсытэцкім будынку. Тут Ф. Багушэвіч меў нагоду чытаць першыя публікацыі В. І. Дунін-Марцінкевіча з раньняга яго пэрыяду, пісаныя й друкованыя лацінкай, што давала стымул для Ф. Багушэвіча ісьці гэтым самым шляхам...

Пасьля прыняцьця ў Віленскую Гімназію Ф. Багушэвіча працэдура вельмі завастрылася. У канцы 1852 г. выданы быў указ, што ў Віленскай Гімназіі могуць вучыцца адно дзеці «дваран» і купцоў 1 і 2-ой гільды. Гэты указ быў скасованы

ў 1857 г., але і паводля новых установак у гімназію не прымаліся дзеці прыгонных сялянаў і салдатаў. Тут нават ў 1855 г. паўстаў наглядны казус. У гэтым годзе зьвярнуўся ў дырэкцыю гімназіі віленскі гарадзкі старшыня Страус з просьбай, прыняць ягонага сына ў Віленскую Гімназію. Яму адмовілі, таму, што ён быў купцом 3-ай гільды. У гэтай справе Міністэрства асьветы выдала 15 верасьня 1855 г. такое тлумачэньне: «Ва указе Кіруючага сэнату з 14 лютага 1852 г. гаворыцца ясна: прымаць у гімназію заходніх губэрняў адно дзяцей купцоў 1-ай і 2-ой гільдыяў. Ня зроблена ў гэтым выпадку ніякага выключэньня для купцоў 3-яй гільды, калі яны будуць займаць гэты пасад паводля гарадзкіх выбараў».

Што-ж тады гаварыць пра сялянскіх дзяцей, калі сын старшыні гор. Вільні ня мог вучыцца ў гімназіі!...

Што датычыць вучняў шляхоцкага (дваранскага) паходжаньня, то наагул яны дапускаліся вучыцца ў гімназіі, пры выпаўняньні многіх патрабаваньняў школы, аплатаў, уніформы, школьных дапаможнікаў і інш.

Як вучыўся Ф. Багушэвіч у Віленскай Гімназіі? Пра гэта можам сказаць на аснове гімназіяльных клясных журналаў, якія па сёньня перахоўваюцца ў Віленскім дзяржаўным Архіве — Фонд Віленскай Гімназіі.

Вучыўся ён няроўна. У 5-ай клясе сядзеў два гады: 1857/58 і 1858/59. Справа ў тым, што ён скончыўшы ў паралельным аддзеле 4 клясы, ня быў добра падрыхтаваны, каб сесьці разам з 5-ці клясьнікамі нармальнай расейскай вучобы.

Асаблівую зацікаўленасьць Багушэвіч праяўляў да моваў — расейскай і польскай. У кнізе посьпехаў вучняў 5, 6, 7 клясаў Віленскай Гімназіі, Ф. Багушэвіч у г. 1857/58: адно з польскай мовы — 5, а ўсе іншыя прадметы — нізкія ацэнкі. З лаціны «адзінка», за што адседзеў два гады. У 1858/59 пад № 39 журнала **Ф. Багушэвіч зрабіў вялікі поступ:** з расейскай славеснасьці — 4, польскай мовы — 4; але з лаціны — «адзінка».

У апошнія гады навукі ў гімназіі Ф. Багушэвіч узмоцнена займаўся матэматыкай, відавочна рыхтаваўся на матэматычны факультэт унівэрсытэту.

У апошнім (7-ым) курсе Багушэвічу споўнілася 21 год жыцьця. Ён памужнеў, узяўся за навуку грунтоўна, рыхтуючыся да фіналу. Адклаў таксама на некаторы час творы Дуніна- Марцінкевіча, Сыракомлі, Некрасава й Шаўчэнкі ды высадзіўся ў канцовым фінале між чатырох найлепшых вучняў з пахвальнай граматай, з правам на чын XIV ступені...

### Школьныя сябры Ф. Багушэвіча

Ацалелыя дакуманты Віленскай Гімназіі даюць нам таксама добрыя дадзеныя аб сяброх Ф. Багушэвіча і школьнай эліце, якія адыгралі вядучыя ролі ў збройным Паўстаньні 1863-64 гадох.

Вось сьпіскі вучняў 1857/58 г. г.:
6. Багушэвіч Францісь,
17. Далеўскі Ціт,
45. Міладоўскі Алесь,
74. Чарноўскі Юльян,
6. Кляса
4. Віткоўскі Вінцэсь,
11. Далеўскі Кастусь,
31. Мінэйка Жыгімонт,
7. Кляса
8. Здановіч Ігнат,
12. Курневіч Ігнат



Імя аднаклясьніка Багушэвіча — **Ціта Далеўскага,** неразьдзельна зьвязана з **Кастусём Каліноўскім** —Правадыром Паўстаньня 1863-64 гг. Далеўскі паходзіў з ведамай сям'і ў Вільні з рэвалюцыйнымі традыцыямі. Ягоныя старэйшыя браты толькі ў 1860 г. вярнуліся з Акатуйскай катаргі, куды былі высланыя ў 1848 г. за ўдзел у Паўстаньні таго-ж году. Іх сястра была жонкай Жыгімонта Серакоўскага, які, побач Кастуся Каліноўскага, мужна змагаўся ў паўстаньні 1863 г. Ціт Далеўскі ў 1859 г. разам са сваім братам Кастусём накіраваліся ў Маскоўскі Унівэрсытэт. У 1863 г. Ціт Далеўскі быў супрацоўнікам Кастуся Каліноўскага. Царскія ўлады, схапіўшы яго, не змаглі мукамі даведацца, дзе хаваецца Каліноўскі, растралялі яго ў Вільні ў сьнежні 1863 г. Кастусь Далеўскі змагаўся ў групе Серакоўскага, потым уцёк у Францыю, дзе загінуў у час Парыскай камуны (Гейштор, Успаміны, I. 308-88).

Гордасьцю Віленскай Гімназіі быў Ігнат Здановіч, які скончыў гімназію з залатым мэдалем. Яго таксама чакаў слаўны й трагічны лёс. Вельмі таленавіты, ён ужо ў 1862 г. быў кандыдатам матэматычных навукаў Пецярбурскага Унівэрсытэту й накіраваўся дзеля папаўненьня навукаў заграніцу. Аднак Здановіч вярнуўся ў Вільню, як толькі да яго дайшла вестка аб паўстаньні. Ён быў правай рукой К. Каліноўскага. Як і Ціта Далеўскага, схапілі расейскія апрычнікі ды павесілі яго на Лукішках у Вільні ў сьнежні 1863 г.

Юльян Чарноўскі, які вучыўся ў 1857/58 г. у адной клясе з Багушэвічам, родам з маёнтку Данюшава, на мяжы Ашмянскага й Сьвенцянскага паветаў. Пасьля сканчэньня Віленскай Гімназіі ён вучыўся ў Пецярбурскім Унівэрсытэце. У 1863 г. быў рэвалюцыйным камісарам Ашмянскага павету. Імя Юльяна Чарноўскага часта ўспамінаецца у сьледзтве сям'і Багушэвічаў адносна ўдзелу ў паўстаньні...

Аб Жыгімонце Мінейку, які ў 1863 г. быў рэвалюцыйным камісарам Ашмянскага павету, будзе гутарка пазьней.

Цікавыя асабовасьці прадстаўляюць: Вінцусь Віткоўскі, Ігнат Курневіч і Алесь Міладоўскі, школьныя сябры Ф. Багушэвіча. Вінцусь Віткоўскі — віляньчук, скончыў Віленскую гімназію на год раней за Багушэвіча. Аб ім пісалі царскія ўлады: «дзевятнаццацьгадовы малады чалавек, поўны рэспубліканскіх ідэяў». (Цэнт. арх. у Маскве). Гэта ён зарганізаваў сярод вучнёўскай моладзі ў Вільні рэвалюцыйны гурток, які ўстанавіў вязі з рамесьнікамі ды прабаваў пашырыць сваю дзейнасьць на сялян. У названым гуртку прымалі ўдзел студэнты Пецярбурскага Унівэрсытэту, сябры Кастуся Каліноўскага: Ігнат Курневіч (скончыў Віленскую гімназію ў 1858 г.), Эдмунд Вярыга (пазьней сябра Літоўскага г. зн. «беларускага» правінцыяльнага Камітэту, які ачольваў Каліноўскі), Эдмунд Юндзіл. Калі ў 1860 г. гурток быў выкрыты, у рукі маскоўскіх уладаў трапіў верш, які дае ўяўленьне пра склад гуртка і настроі, што панавалі ў Віленскай Гімназіі. Верш быў пісаны папольску, у актах знаходзіцца расейскі пераклад.

Тосты по говоду маевки 23 апр. 60 г.
Вильно. Импровизация.
Нальем чарки! Подадим друг другу руки!
Пусть соединит нас единодушие и согласие!
Да окончим уже время неволи!
Да увенчит чело наше лавр свободы!
Пусть звенят чарки! Пусть шумит мед!
Да здравствует Викентий! Честь тебе честь!
Любовь к отечеству — предмет твоих чуств,

Наша к нему любовь — плод твоих посевов.
Да здравствует наш Адольф! Как его чело
Пылает! Как взор его горит мужеством!
Имеет ловкость тела и сильную руку,
Пусть узнает ее скоро враг!
Наш — Александер также молодец,
Да здравствует! В нем живет Красинских дух!
Когда наступит время воевать,
Мы будем сражаться, ты нас — вопевать. Ура!
Да благоприятствует нам счастливая судьба!
Честь вам, господа! Честь, всем, честь,
Кто за край готов свою жизню несть,
Не дадим себя дуть под нос...
Ура! Ура! Ура! В последний раз
Единодушие и согласие! Подадим друг другу руки!
Пусть цепь бесчестия свалится с нас!
Пусть лавр свободы увенчает нам чело!

**Хто-ж яны, — гэты малады Вінцэсь, мужны — Адольф, паэт Аляксандар,** пра якіх гаворыцца ў названым вершы? Аказваецца, усе яны — гімназіяльныя сябры Ф. Багушэвіча ды вучыліся або ў адной, або ў суседняй клясе.

Як паказаў вучань Віленскай Гімназіі Аляксандар Капылёў, у гэтым вершы названыя такія асобы: **Вінцэсь Віткоўскі, Адольф Якавіцкі і Аляксандар Міладоўскі.** Аб магчымай блізкасьці Багушэвіча да Віткоўскага і да Міладоўскага мы ўжо гаварылі. Каб давесьці сувязь Багушэвіча з Якавіцкім і Капылёвым, хопіць падаць выпіску з клясовага журнала Віленскай Гімназіі па правазнаўстве за 1860-61 году. У сьпісе вучняў сёмай кл., якія вывучалі правазнаўства, усяго 6 чалавек, з каторых:

4. Капылёў Аляксандар
5. Якавіцкі Адольф
6. Багушэвіч Францішак

Такім чынам, блізкасьць Ф. Багушэвіча да людзей, якія тварылі ў 1860-61 г. Гурток Віленскай Рэвалюцыйнай Моладзі, можна лічыць бязсумліўнай.

÷ ÷ ÷

Рэвалюцыйныя традыцыі сярод студэнтаў Віленскай Гімназіі асабліва ўзмоцніліся пасьля царскага маніфэсту аб зямельнай рэформе 19 лютага 1861 г. Яны хутка перакінуліся на правінцыю. У красавіку 1861 г. вялікія натоўпы сялян вышліся ў м. Іўе, Ашмянскага пав., патрабуючы запраўднай волі. Адбылася сутычка з царскімі войскамі, з адным забітым і многімі параненымі сялянамі... Багушэвіч у сваім вершы «Быў у чысцы» дае наглядны рэпартаж:

«Іду і мяркую: ці вось цяпер шчасьце,
Як паноў ня стала, ці-ж тагды была доля?
І лічу на пальцах: паншчыны дванасьце,
А гадоў да трыццаць, як настала воля...
Там быў аканом, камісар і цівун,
Намесьнік, лясьнічы, хмістрыня, паны,
І кожны меў права ўзяць за бізун,
І кожны меў права да нашай сьпіны...
А цяпер?.. Ой, штосьці кепска выходзе,
Цяпер ці ня болей настала паноў?!
Ня надта свабодна ў гэтай свабодзе,
І давай я лічыць паноў новых зноў:
Стараста, соцкі, пісар, старшына,
Пасрэднік,ураднік, асэсар і суд,
Зьезд міравы, прысудства і сход...
Аж паднялася са страху чупрына,
Аж пальцаў ня стала на весь гэты шчот!
А пальцамі-ж трэба карміць гэты люд!..

Узбунтаванае сялянскае мора бушавала, падыходзіла да гарадзкіх сьценаў, а з гарадоў выходзілі ім на помач натоўпы маладых барацьбітаў за свабоду народу. У гэтым часе малады Ф. Багушэвіч ходаецца з уладамі, каб дастацца ў Пецярбурскі Унівэрсытэт. Трэба было нанава давесьці шляхоцкае паходжаньне, у канцылярыі Віленскага губэрнатара. У бурных маніфэстацыйных дэманстрацыях, у Вільні, Горадні, Пецярбургу, Маскве і інш. гарадох расейскай імпэрыі кіпела рэвалюцыйнае напружаньне... 17-га жн. 1861 г. у «Віленскім Весьніку» была надрукаваная гэткая адозва: «Віленская дырэкцыя школаў, маючы весткі, што вучні з падуладных ёй школах, таксама як і прыезджыя з іншых навучальных установаў, ходзяць па вуліцах бяз уніформаў, расхрыстаныя, у белых шапках, з бізунамі або палкамі ў руках, знаходзіць патрэбным напомніць усім вучням, што нашэньне няформнай вопраткі ды палак строга забараняецца школьнымі правіламі» (М. В. Серебряков, Исторический очерк 100-летнего существования Вилен. 1-й Гимназии. 1803-1903. ч. I. 1803-1862. Вильно, 1903, ст. 139).

Але загады не памагалі. 6-га жніўня 1861 г. 5.000 дэманстрацыя Віленскіх рамесьнікаў, дробных урадаўцаў і гімназістаў накіравалася да магілы вялікага нашага рэвалюцыянера Сымона Канарскага, які быў растраляны маскалямі ў Вільні ў 1839 г. Ля заставы, дарогу дэманстрантам перагарадзіла войска. У ход пайшлі камяні з бруку і калы. З вялікім трудом казакі разагналі дэманстрацыю...

Багушэвіч пакінуў Вільню, калі расклееныя па горадзе абʼявы генерал-губэрнатара забаранялі ўсяму насельніцтву пасьля 9-ай гадзіны вечара выходзіць на вуліцу. На ўсіх заставах і выездах стаялі ваенныя старожы.

Аднак яшчэ больш хвалюючыя падзеі чакалі Багушэвіча ў Пецярбурзе. Залічаны ён быў на першы курс матэматычнага факультэту. Захаваўся ў Гіст. Архіве Ленінгр. Воб. д. 95, ф. 14 уласнаручна напісаная заява Ф. Багушэвіча з просьбай аб звальненьні яго ад унівэрсытэцкіх аплатаў: «Не имея решительно никаких материальных средств, ни побочной помощи, пісаў ён, в доказательство чего имею честь представить свидетельство: от уездного предводителя дворянства и от Виленской дирекции училищ, обращаюсь к Вашему превосходительству с покорной просьбой об увольнении меня от установленной платы 50-ти рублей за право обучения. Франц Богушевич, 26 июля 1861 года». У далейшым працягу сваёй просьбы Ф. Багушэвіч выказваў сваю волю атрымаць вышэйшую адукацыю. У заяве да рэктара, ён асабліва падкрэсьліваў сваё жаданьне быць ў Вышэйшай навуковай установе, ды прасіў яго залічыць у лік студэнтаў С.-Пецярбурскага Унівэрсытэту ў матэматычны факультэт...

Такім чынам Ф. Багушэвіч дзеля свайго матарыяльнага становішча лучыў у групу т. зв. «кухаркиных детей», як паніжана называлі іх «казенно-коштных сту-

дентов» сыны арыстакратаў...

Здавалася, лёс усьміхнуўся Багушэвічу. Але сталася інакш. Ён ужо 14 лістапада 1861 г. быў звольнены з Унівэрсытэту за ўдзел у студэнскіх дэманстрацыях у Пецярбурскім Унівэрсытэце. Як перадаюць дасьледнікі «народавольскага руху» ў Расеі 1860-ых гадох (М. Лемке. Политические процессы в России 1860-х годов. Москва-Петроград, 1923, б. 70) рэвалюцыйны ўздым выклікала праклямацыя Н. Шелгунова, «К молодому поколению». Праклямацыя гэтая часта была чытаная і абмяркоўваная на масавых студэнцкіх зборках, у якіх удзельнічаў і Ф. Багушэвіч. Яна заклікала да рэвалюцыйнай барацьбы з царскім самадзяржаўем ды гучэла перакальна для тагачаснай інтэлігенцыі: «Калі-б для зьдзейсьненьня нашых імкненьняў — для надзелу зямлі малазямельным і беззямельным прышлося выразаць сто тысяч паноў, мы не пабаяліся-б і гэтага». Пачаліся вострыя рэпрэсіі адносна ахвяраў паліцыйнага сьледзтва. Тады было выкінена з Унівэрсытэту больш 200 студэнтаў. Сярод іх і быў Ф. Багушэвіч. Так, у сьпіску пад № 137, маецца і прозьвішча Ф. Багушэвіча (Госуд. истор. архив Ленингр. области, д. 95, арх. 264).

У чым-жа заключалася «віна» усіх студэнтаў, засуджаных на баніцыю? У тым ліку і Багушэвіча. Сьледчыя акты сьцьвярджаюць, што, вярнуўшыся студэнты Пецярбурскага Унівэрсытэту з летніх вакацыяў 1861 г. аб'явілі байкот новых правілаў Унівэрсытэту, якія забавязвалі ўсіх студэнтаў насіць пры сабе ды паказваць пры ўваходзе на тэрыторыю Унівэрсытэту матрыкулы — легітымацыі, дзе ўсе забароны ўладаў былі надрукованыя. Сярод іх быў і Ф. Багушэвіч, які таксама быў папярэджаны, што за адмову прыняцьця матрыкулаў, будзе выдалены з Унівэрсытэту.

Ці гэта так было, што Багушэвіч лёгкадумна лучыў у сьпісак уладаў, тых студэнтаў, што адмовіліся ад матрыкулаў? Думаем, што гэта ня так. Сам Багушэвіч гэтаму запярэчыў у сваёй заяве, перададзенай у канцылярыю Пецярбурскага Унівэрсытэту, што ён ніколі не адмаўляўся прыняць матрыкулы, але ў часе іх выдаваньня быў цяжка хворы, а ягоны лекар радзіў яму выехаць з Пецярбурга з прычыны клімату. Багушэвіч у канцы сваёй заявы просіць унівэрсытэцкія ўлады зьвярнуць яму ўсе дакуманты, так як ён згодна з парадай лекара, хоча вярнуцца на бацькаўшчыну. Заява гэтая датованая 30 ліст. 1861 г. (ст. ст.).

Магчыма, што Багушэвіч, трапіўшы ў нерат, прабаваў ратаваць сябе ад далейшых непрыемнасьцяў царскага рэжыму. Але паліцыйная царская машына не паверыла сьведчаньню дакторскаму ў пасьведчаньні, і Багушэвіч разам з іншымі выдаленымі студэнтамі, выехаў дамоў. Быстры розум Багушэвіча ўсёж-ткі аказаўся дзельным. У пасьведцы аб звальненьні яго з унівэрсытэту было адзначана «добрыя паводзіны». Гэта абазначала ў тыя неспакойныя часы «пропуск» для Багушэвіча ў далейшым жыцьці. Думаю, што будзе найлепш, каб прачытаў чытач названую пасьведку полнасьцю, ды ў арыгінальнай мове:

«Предьявитель сего Франц Богушевич, поступил в число студентов императорского С.-Петербургского университета 15 сентября 1861 года, слушал науки по математическому разряду при поведении очень похвальном, а в ноябре 1861 года по прошению уволен из университета с первого курса, из-за чего правами, предоставлеными студентам, закончившим курс наук, пользоваться не может; при поступлении же в гражданскую службу... имеет право быть зачисленым во второй разряд чыновников» (Госуд. истор. архив Ленингр. области, д. 95, ф. 14).

Як бачым, пад ногі маладога Ф. Багушэвіча, падаюць новыя калоды, якія ўсьцяж



прыходзілася пераадольваць. Ці-ж ня сугучны верш паэты з гэткімі настроямі — МАЯ ДУДКА?

МАЯ ДУДКА

Эх, скручу я дудку!
Такое зайграю,
Што ўсім будзе чутка
Ад краю да краю!
Ой! то будзе граньне,
Як на павітаньне
І як на вясельле,
Нядоўга тыкеле: [1])
Скора скончу песьні...
Пакуль дудка трэсьне,
Ці паглохнуць людзі,
Ці высахнуць грудзі,
Сілы надарвуцца
На радаснай дудцы,
І выцякнуць сьлёзы
На сухія лозы...
Выйдзе душа парай,
Падымецца хмарай,
Туманам па рэчцы,
Расой разьліецца,
Каласочкі зросе,
Каб жыта ўдалося.
А хлеб зьядуць людзі,
І зноў сьляза будзе.
Ну, дык грай-жа дудка,
Каб-жа была чутка,
Каб аж вушы драла;
Каб ты так іграла,
Каб зямля скакала!
Зайграй так вясёла,
Каб усе наўкола,
Узяўшыся ў бокі,
Ды пайшлі ў скокі,
Як віхор у полі —
Аж выячы зболю;
Каб аж рагаталі,
Ды ўсьцяж скакалі...
Каб скакалі горы,
Як хваля на моры,
Як паны на балі, —
Каб вось як скакалі!...
Га! Чаму-ж ня граеш?
Хіба ты ня знаеш,
Ня ведаеш хіба,
Што, як тая рыба
Ды на лёдзе б'ецца,
Так вось я, здаецца,
Сорак гадоў б'юся,
Ніяк не зьвярнуся,
Ніяк не натраплю
Вадзіцы хоць каплю,
Ды такой вадзіцы,
Ды з такой крыніцы,
Што, як хто нап'ецца,
Дык вольным стаецца!
Грай, вясёла-ж грай,
Або долю дай!...
. . . . . . . . . .
Енчыш бязумолку!
Не, ня будзе толку!
Кіну-ж дудку тую,
А зраблю другую.
Цяпер зраблю дудку
Ад жалю, ад смутку.
Га! Зраблю-ж другую,
Жалейку смутную, —
Ды каб так заграла,
Каб зямля стагнала,
Вось каб як заграла:
Каб сьлязьмі прабрала,
Каб аж было жудка,
Вось-жа мая дудка!...
Дык зрабіў такую!
Дай-жа паспрабую...
Ну, дык грай-жа, грай-жа,
Усё ўспамінай-жа...
Што дзень і што ночы
Плач, як мае вочы,
Над народу доляй,
І плач што раз болей.
Плач так даастатка,
Галасі, як матка,
Хаваючы дзеці, —
Дзень, другі ды трэці,
Іграй сьлёзным тонам
Над народу сконам!
Каб ты так іграла,
Каб немарасьць брала.
Як сьлязы ня стане,
Заціхне іграньне.
Кінь наўкола вокам,
Дык крывавым сокам —
Не сьлязой — заплачаш,
Як усё убачыш.
Як крыві ня стане,
Тагды скончу граньне!

Ці гэта так, як мы прадставілі на аснове дакумантальнага матарыялу адбылася паездка Ф. Багушэвіча ў Петраград і ягоныя пэрыпэтыі з «хваробай» і «дрэнным

[1]) толькі

кліматам», ці з названымі «матрыкуламі»? Мы маем усе асновы думаць, што ўсё гэта была адно дымная заслона спрытнага маладога юнака-рэвалюцыянера. Пасьля царскага маніфэста 19 лютага 1861 г. мусіла выбухнуць нацыянальная рэвалюцыя пад сьцягамі не шляхоцкімі, але новымі — сялянскімі, мужыцкімі і нацыянальнымі. Вось чаму да гэтага нацыянальнага ўздыму патрэбны быў некаторы час на падрыхтоўку, так палітычную як і сялянскую-народную з нацыянальнымі мовамі: беларускай, жамойскай, украінскай, польскай. Вось чаму на долю Ф. Багушэвіча выпала пад рознымі мужыцкімі мянушкамі, (Мацей Бурачок, Рэўка Сымон з пад Барысава, Стары лясьнік) пісаць пабеларуску не народныя апавяданьні ці песьні, але тварыць арыгінальныя і актуальныя на часе вершы, насычаныя народнай мукай, нанесенай маскоўскім панявольнікам-акупантам у выглядзе невыноснага ярма так рэлігійнага, дзяржаўнага, сацыяльнага, палітычнага і нацыянальнага...

Вось-жа Ф. Багушэвіч ўжо ў Віленскай Гімназіі ўключыўся ў гэты рэвалюцыйны ўздым так студэнцкай моладзі, як усіх рэвалюцыйна настроеных людзей пад маскоўскім гнётам. Паездка Ф. Багушэвіча ў Пецярбург пад прыкрыцьцём уступленьня на навуку ў тамтэйшым унівэрсытэце, патрэбная была так яму, як і віленскай падпольнай арганізацыі дзеля правядзеньня паўстанчай падрыхтоўкі. І гэтую місію Ф. Багушэвіч выканаў удала... асабліва пасьля свайго павароту дамоў. Ён не выкарыстоўвае, дадзенай яму магчымасьці ў унівэрсытэцкай пасьведцы, не шукае ўрадавай пасады «другога разраду», але «йдзе ў народ», як тады казалі ўсе патрыёты-народнікі, каб яго будзіць да чыну, каб навучаць яго знайсьці сваю нацыянальную праўду.

І так Ф. Багушэвіч пасьля свайго павароту з Петраграду восеняй 1861 г. уладзіўся «народным» настаўнікам у невялікай школе ў маёнтку Доцішкі, Лідзкага павету. Ён быў народным настаўнікам у самым высокім значэньні гэтага слова. Ён рыхтаваў народ на ПАЎСТАНЬНЕ. А калі сяляне прыносілі яму чытаць «МУЖЫЦКУЮ ПРАЎДУ», якую выдаваў Кастусь Каліноўскі (Ясько гаспадар з-пад Вільні) ў тым часе, Багушэвіч яе ахвотна чытаў, ды думаў, што там вылажаныя і ягоныя думкі...

Не парываў Ф. Багушэвіч цесных сувязяў і з родным Ашмянскім паветам, дзе ў гадах 1861-62 актыўна дзейнічала рэвалюцыйная арганізацыя «Пятніцкіх». Гэты назоў замацаваўся ад прыпадковага зьявішча: зборкі адбываліся ў пятніцы тыдня. Арганізаваў іх былы студэнт Пецярбурскага унівэрсытэту, супрацоўнік Каліноўскага, — Я. Чарноўскі. Фільялы Таварыства былі ў Вільні, у Сьвенцянах, у Ашмянах. Арганізацыя ставіла перад сабой вельмі важную справу: аб'яднаць нацыянальна-вызвольны рух з сялянскім супрацьпанскім рухам.

Да левага крыла Таварыства «Пятніцкіх-» належаў, відаць, і Багушэвіч. Прозьвішча яго ў сувязі з гэтым Таварыствам успамінаецца ў паведамленьні загадчыка III аддзелам царскай канцылярыі кн. Доўгарукава Віленскаму генерал-губэрнатару з 20 ст. 1862 г. Вось як гучыць гэты дакумант, дзе падаюцца агентурныя весткі, здабытыя III-м аддзелам: «Зьезд сяброў Таварыства «Пятніцкіх», які мяркаваўся на 6 студзеня, не адбыўся, кажуць таму, што за імі пачалі ў апошні час вельмі пільна назіраць, так што, баючыся выкрыцьця, яны не зьбіраліся нават у малым ліку. Аб гэтым было абвешчана Чарноўскім на невялікім сходзе, што адбыўся перад Новым годам у Ашмянах у канцылярыста Гаўрынкевіча, дзе былі Чарноўскія, Маркоўскія, Багушэвіч, Валповічы, Каласоўскія і Язэп Студзень з Варшаўскай мэдычнай акадэміі. Чарноўскі, дадаў, што зы зьняцьцем ваеннага становішча ў



Вільні сябры названага Таварыства будуць значна свабаднейшыя на сваіх сходах, прасіў прысутных сабрацца 10 студзеня ў Ашмянах на агульны сход моладзі...» Маючы на ўвазе блізкае знаёмства Ф. Багушэвіча з Чарноўскімі, можам меркаваць, што гутарка тут ідзе пра Ф. Багушэвіча.

Такім чынам, Ф. Багушэвіч быў у першых радох тых, хто кідаў у наш народ насеньне рэвалюцыі ў слоўнай і пісьмовай форме, а калі ў студзені 1863 г. выбухла паўстаньне ў Польшчы, Каліноўскі неадкладна заклікаў і Беларускі народ падтрымаць супольную барацьбу. Сам Ф. Багушэвіч бяз хістаньняў узяўся за зброю...

Захавалася лягенда пра камень на Жупранскім рынку. Стоячы на гэтым камені, Ф. Багушэвіч сказаў прамову перад адыходам да паўстанцаў. Гэта было, відаць, у сакавіку 1863 г., калі пад Смаргонямі, Валожынам і ў іншых аколіцах Ашмянскага павету зьявіліся першыя паўстанскія аддзелы. Паводля гэтай лягенды Ф. Багушэвіч меў сябе тады назваць «ашмянскім старастам». [1])

Тая шчасьлівая акалічнасьць, што Багушэвіч ня быў злоўлены царскімі ўладамі, што ягонае імя не назвалі сябры на допытах у сьледчых камісіях, ускладняе становішча біяграфа. Нам не вядома нават, у якім паўстанцкім аддзеле быў Багушэвіч. Сам паэт успамінаў пазьней пра свой удзел у паўстаньні 1863 г. толькі сярод самых блізкіх сяброў.

Праз шэсьць гадоў пасьля сьмерці Ф. Багушэвіча Напалеон Роўба, які блізка ведаў яго, апублікаваў у Віленскай газэце «Кур'ер Літоўскі» некалькі радкоў пра ягоны ўдзел у паўстаньні: «Гістарычная навальніца надзвычай цяжкай хмарай павісла над Літвой (чытай сёньня Беларусяй). Прыйшоў 1863 г., а крыху пазьней зьявіўся Мураўёў. Францішак Багушэвіч далучыўся да паўстанцаў ды прайшоў шлях да самай Сувальскай (тады яна называлася Аўгустоўскай) губэрні. Паранены ў нагу, ён знайшоў там гасьціннасьць і клапатлівыя адносіны ў доме пп. Крушэўскіх, якія таксама зрабілі пасьля больш лёгкім яго паварот у Вільню».

Сьведчаньне вельмі каштоўнае, але яно нажаль, не асьвятляе баявога шляху Багушэвіча. Калі ён уступіў у паўстанскі аддзел у Ашмянскім павеце, то ваяваў, відаць, спачатку ў аддзеле Жыгімонта Мінэйкі. Гэта быў яго зямляк, равесьнік і сябра з Віленскай гімназіі. Пазьней Мінэйка вучыўся ў Пецярбурскім ваенна-інжынерным вучылішчы, прымаў удзел у рэвалюцыйнай арганізацыі ды ў 1861 г. быў змушаны ўцячы за мяжу. Некаторы час вучыўся ў польскай рэвалюцыйнай ваеннай школе ў Кунэо ў Італіі. Матарыялы сьледзтва дазваляюць зрабіць вывад, што Мінэйка меў блізкія зносіны з І. Курневічам і Э. Вярыгам. Калі пачалося паўстаньне 1863 г., ён быў прызначаны рэвалюцыйным ваенным начальнікам Ашмянскага павету ды аб'ядноўваў пад сваім камандаваньнем усе аддзелы паўстанцаў Ашмянскага павету. Зборны пункт быў у лесе, па дарозе паміж Міхалаўшчынай і Краснай Горкай. Харчаваньне паўстанцам давалі сяляне вёскі Лавіна. У пачатку чэрвеня 1863 г. слаба ўзброены аддзел Мінэйкі, засьцігнуты царскімі войскамі ў Бакштанскіх лясох, пацярпеў паразу, хворы на тыф Ж. Мінэйка быў узяты ў палон. (І. Гейштор, т. II, 269, і Судова-сьлед. справа ў Віленскім архіве).

далей будзе.

---

[1]) Аб удзеле Ф. Багушэвіча ў Паўстаньні 1863 г. успамінаюць між іншымі, сваякі і знаёмыя яго. Так С. К. Альхімовіч і С. Ф. Чайкоўская ў сваіх родавых традыцыях.

Васіль БЫКАЎ

# МЁРТВЫМ НЕ БАЛІЦЬ

Аповесьць

працяг

14

Юрка зьняможана сьпіць побач, зьвесіўшы на грудзі сьветлую галаву. Здаровай рукой ён засьцярожліва ахінае параненую і ціха пасопвае ў нос — па-хатняму мірна і соладка. На ложку словамі і жэстамі спрабуе нечага дабіцца ад немца сержант. Навокал угамоньваюцца, ладзячыся на ноч, параненыя. Гамана ў хаце пакрысе заціхае. Густа, не прадыхнуць, сьмярдзіць шынялямі, потам, бінтамі. У мяне мацней пачынае балець нага. Гарыць, пячэ ў ступні. Заснуць я ўжо не магу і моўчкі гляджу на свайго соннага сябра.

Эх, Юрка, Юрка! Сапраўды гэта здорава, што мы вось гэтак нечакана-негадана сустрэліся сёньня. Можа, гэтак-жа разам сядзем заўтра ў санітарную машыну і рванем у тыл — прэч ад танкаў, агню і бясконцых франтавых трывог. І там — ложак, чыстая бялізна, спакой і сон, сон... Магчыма, нам пашанцуе яшчэ болей і мы трапім у адзін шпіталь. Тады будзе не лячэньне, а рай. У такім разе я гатовы прымірыцца з маёю вымушанай разлукай са ўзводам, у якім так мала ўжо засталося старых стралкоў. Мусіць, праз які месяц усе будуць новыя, незнаёмыя, з папаўненьняў. Зноў трэба будзе вучыцца ды прывыкаць да кожнага. Ну, але не бяда, прывыкнем — я да іх, яны да мяне. Гэта толькі здаецца так, што новыя горш за старых, проста яны невядомыя. Праўда, сярод іх розныя — і лепшыя і горшыя, як і сярод старых. Хаця гэта пасьля. Цяпер вось самае галоўнае — мы разам з маім самым найлепшым сябрам, маім Юркам.

Гэтак-жа паўтара года назад, зусім нечакана і яшчэ ня ведаючы адзін другога, мы трапілі ў адзін строй у вучылішчы і апынуліся ў адной роце, у адным узводзе і нават у адным аддзяленьні. Год мы праспалі на нарах побач, і амаль кожную ноч пад ранак ён нецярпліва штурхаў мяне ў бок за маю недарэчную прывычку храпці. Нам было дужа ня соладка там — зусім яшчэ навабранцам, амаль сапляк, учарашнім школьнікам, якіх жорсткі лёс вайны кінуў ад кніжнай навукі ў бязлітасную суровасьць вайсковага вучылішча, з яго ўшчыльненай праграмай, бяссоннымі нарадамі, зьнямогласьцю абарончых работ. Заўжды хацелася спаць, есьці, адпачыць, а ўзводныя з нашага-ж брата, курсантаў папярэдніх выпускаў, якія самі ня ведалі тут паблажак, ня песьцілі імі і нас. Казалі, так было трэба, каб фронт здаўся раем пасьля таго гранічнага напружаньня, да якога нас прызвычаілі ў вучылішчы. Сапраўды, дзесяць гадзін заняткаў у поўнай выкладцы, маршы, вучэньні, земляныя работы ў ваколіцах горада (будаваўся зьнешні абаранляльны рубеж Саратава), ноччу — абавязковыя дзяжурствы на заводах, якія бамбілі немцы. Там яшчэ да



фронту мы пазналі вайну, агонь і вострую жалобу па сябрах, расшкуматаных бомбамі, і па тых, хто бяз рэшты згарэў у вялізных пажарах.

Гэта было вельмі нават нялёгка, асабліва калі ўлічыць журботнае сіроцтва многіх з нас, родныя мясьціны якіх былі пад ворагам. А немцы ўсё пёрлі і пёрлі на ўсход, на Сталінград, на Каўказ, стаялі непадалёку ад Масквы. І калі ўсё-ж знайшлося такое, што давала нам душэўныя сілы вытрымаць, дык у ім нямала значыла пачуцьцё таварыства з яго неадмысловым гумарам, добрасьцю, шчырасьцю. Усё, аказваецца, можна перажыць, калі ў цябе ёсьць сябра, з якім многае дзеліцца напалам. Тады ўсе турботы і скруха меншаюць роўна ўдвая, а радасьць — дзіўная справа! — удвая павялічваецца. І які-б ён ні быў, твой сябра, калі ў цябе няма лепшага, ён робіцца другою часткай цябе самога, і ты ўжо ня можаш уявіць сябе асобна ад яго. Адным з такіх сябрукоў быў для мяне Юрка Стралкоў.

Мажа гэта і няпрыемна ўспамінаць цяпер, але нашае збліжэньне пачалося з таго, што мы пасварыліся. Пасварыліся, як дурні, бяз слушнай на тое прычыны, проста, мабыць, таму, што яшчэ дрэнна ведалі адзін аднаго. На палітзанятках, якія ў нас праводзілі проста ў казарме, на праходзе між нараў, палітрук Шаяхметаў пытаўся пра задачы, пастаўленыя ў першамайскім загадзе Вярхоўнага, і я ня мог іх пералічыць правільна. Ня тое, каб я ня ведаў гэтыя задачы, але палітрук быў фармаліст і патрабаваў адказаць слова ў слова, як гэта было запісана ў загадзе. Я-ж вучыць іх на памяць ня меў часу.

Калі была апытана палавіна ўзвода, аказалася, што толькі курсант Стралкоў мог адказаць больш-менш правільна. Вось тады палітрук і прымацаваў Стралкова да траіх адставак па палітграмаце. Але калі Юрка падышоў да нас пасьля заняткаў, мы яго не паслухаліся, болей таго, мы з ім пасварыліся (падумаеш, знайшоўся без пяці мінут нампалітрука!). Мы самі ня горш за яго маглі вывучыць тыя чатыры або пяць пунктаў. Толькі мы ня вучылі.

Стралкоў, вядома, пакрыўдзіўся, бразнуў дзьвярыма і пайшоў — думалі, дакладваць начальству, аднак ён не далажыў. Апошняя акалічнасьць трохі парушыла нашу няпрыязьнь да Стралкова і, каб не падвесьці яго (ды і сябе таксама), да наступных заняткаў мы ўсё вызубрылі.

Зімой у вучылішчы стала холадна, у нятопленых вялізных казармах вельмі даймала сьцюжа. Напорысты заволжскі вецер на шматгадзінных палявых занятках наскрозь прадзьмуваў нашыя пацёртыя шынялькі. Мы дужа калелі і таму яшчэ болей хацелі есьці. Пра яду мы думалі заўжды: на занятках, у нарадзе, на вячэрняй праверцы і нават прачынаючыся ў казарме ноччу. Ля сталоўкі і каля прадсклада заўжды таўкліся курсанты — хворыя, вызваленыя ад заняткаў, тыя, у каго парваўся абутак і ня было ў чымісьці ў поле. Усе з галоднай тугой у вачах чакалі шчасьлівага выпадку раздабыць што зьесьці.

Аднойчы мы з Юркам былі ў караўуле і прастаялі ноч на двухзьменным пасту, які на дзень звычайна зьнімаўся. Гэты пост даваў

нам права адляжацца ў каравулцы на нарах (калі толькі ня было да нас ніякай патрэбы ў грознага бога роты — старшыны Шквары). Зрэшты, у той дзень першы зранку заваліўся спаць я, бо ўжо адстаяў сваё на пасту, і хроп амаль да сьняданьня. Юрка-ж, зьмяніўшыся пазьней, пабег да сталоўкі на здабычу харчу, і там яму надарыўся проста няверагодны па тым часе выпадак.

Узрушаны, ён куляй уляцеў у каравульнае памешканьне і, ледзьве расштурхаўшы мяне, яшчэ адурэлага ад сну, павалок да прадсклада. Аказваецца, там нас чакала крытая аўтамашына, у якой вазілі з горада хлеб і да якой Юрка толькі што занарадзіўся грузчыкам. Загадчык склада, маўклівы пажылы дзядзька ў ватоўцы, нецярпліва чакаў Юрку, хоць побач, наперабой прапаноўваючы свае паслугі, стаяла чалавек шэсьць курсантаў. І ўсё-ж Юрка, рызыкуючы застацца ні з чым, пабег па мяне, і мы, ледзьве здыхваючыся ад стомы, урэшце залезьлі ў жалезны кузаў машыны. Загадчык сеў у кабіну.

Мы ехалі, мяркуючы праз гадзіну вярнуцца, наеўшыся сьвежага хлеба і (калі пашанцуе) можа яшчэ і прыхапіць якую буханачку-другую на заўтра. Дзеля хлеба мы сьвядома ахвяравалі сьняданьнем — сотграмоваю пайкаю, міскай супу і чаем, — нам даражэй быў хлеб.

Праўда, загадчык склада неўзабаве расчараваў нас. Аказалася, што перш чым ехаць па хлеб, трэба прывезьці мяса. Гэта было ўсё-ж ня тое, што хлеб, але што зробіш — калі ўлезьлі ў кузаў, дык мусілі слухацца. З гадзіну мы цягалі на мясакамбінаце баранія тушы ў машыну, і наклалі іх столькі, што ледзьве ўлезьлі самі. На першы погляд гэта было вельмі заманліва — цэлая гара бараніны, толькі, вядома, карысьці з яе мы ня мелі ніякай.

Галодныя, мы згрузілі тушы на вучылішчным складзе і, не пасьнедаўшы (бо спазьніліся), на той-жа машыне зноў выправіліся ў горад. Але і ў гэты раз хлебазавод застаўся ўбаку, мы прыехалі на базу, дзе нам была падрыхтавана яшчэ горшая нечаканка ў выглядзе цэлага штабеля мяхоў з мукой. Гэта было жахліва. Мабыць, кожны з нас упаасобку важыў меней, чым кожны з гэтых стандартных шасьцідзесяці-кілаграмовых мяхоў, якім мы проста не маглі даць рады. У нас занадта было мала сілы, каб падняць мех на вагі і з вагаў вынесьці ў двор на машыну. Але што мы маглі зрабіць, калі напрасіліся ў грузчыкі? Праўда, памог загадчык склада, і пакуль мы мураўіным спосабам пераваліакалі ўсю муку ў машыну, дык выйшла, што сілы ў нас засталося толькі на тое, каб самім залезьці ў кузаў. А наперадзе чакала яшчэ і разгрузка. Да таго-ж, мы празявалі і абед і спазьніліся ў каравульнае памяшканьне. У перспектыве была гаўптвахта, а можа і яшчэ горшае.

Але трэйці рэйс быў сапраўды па хлеб, і мы рызыкнулі — усё роўна ўжо ўліплі. Што ўжо бедаваць па якой гадзіне самавольнай адлучкі, калі мы адлучыліся з казармы ўвогуле ня меней, чым на восем гадзін.

Хлебазавод сустрэў нас такой канцэнтрацыяй хлебнага паху, што мы гатовы былі забыць пра ўсе нашыя беды і наогул не вяртацца ў



той дзень у вучылішча. Паджарыстымі, духмянымі да п'янасьці боханамі былі выкладзены дзесяткі ячэістых сьцелажоў з вузенькімі праходамі паміж іх. Цэлымі сьцелажамі ўзважвалі і аддавалі на пагрузку ў машыны. Мы былі болей чым галодныя, здавалася, маглі зьесьці па дзесяць буханак кожны, але зьесьці нават кавалка тут было нельга. Мы думалі: хай! Пад'ямо пасьля.

Гэтае "пасьля" выдарылася толькі тады, калі ў закрытай машыне мы трэсьліся побач з цёплаю грудай буханак і глыталі, мабыць ня жуючы, мяккія распараныя скарынкі. Толькі ці многа можна было іх праглынуць за якіх пятнаццаць хвілін дарогі па калдобінах зімовай вуліцы? Пасьля мы разгружалі, — сумленна, да апошняй буханкі. Дарэчы, кантроль на нашу працу быў усюды болей чым строгі. Але мы спадзяваліся не дарма.

Загадчык склада памучыў нас добра, але і няблага аддзячыў. На разьлік мы атрымалі тры яшчэ цёплыя бoханы і пусьціліся ў свае казармы. Сьпяшацца, зрэшты, ня мела вялікага сэнсу, бо на праверку мы даўно ўжо спазьніліся, у гарадку ўсё сьцціхла, толькі па дарожках каля казармаў хадзілі патрулі. Яны і затрымалі двух вельмі падобных на злодзеяў або дывэрсантаў парушальнікаў вайсковага распарадку.

Стычка з імі была ня дужа прыемная, але затое нядоўгая. Каб ня трапіць да дзяжурнага па вучылішчы і ня страціць усё, давялося ахвяраваць адною буханкай. Другую мы прадбачліва прыхавалі ў сьнезе каля плота, а з апошняю пад палой у Юркі, ледзьве пераборваючы страх, адчынілі дзьверы казармы.

Аднак нам да канца не шанцавала ў той дзень, і мы канчаткова зразумелі гэта, як толькі пераступілі парог і ўбачылі на праходзе між нараў нашага старшыну Шквару. Двое нарадчыкаў пачыналі мыццё падлогі, а старшына, па-напалеонаўску скрыжаваўшы на грудзях рукі, сьцюдзёным позіркам усёбачачых вачэй глядзеў на нас. "Дзе былі? Адказвайце! Маўчаць, калі размаўляеце са старшыной! Я вас пытаюся, дзе былі? Маўчаць! На губу захацелі?.." І раптам старшына зьмяніўся: "А ну, а ну, што гэта ў вас? А ну?.."

Так беззваротна загінула наша другая сумленна запрацаваная буханачка, замест якой старшына тут-жа надзяліў нас чатырма нарадамі (мала нам у той дзень было яшчэ працы!). Зьняўшы шынялі і амаль глытаючы сьлёзы, мы ўзяліся шараваць падлогу.

Мы праклінали тады старшыну, ледзяную ваду, якую трэба было цягаць у вёдрах ад самай сталоўкі, праклінали загадчыка склада, які давёў нас да такіх пакут, і ўсё на сьвеце. Адзіным нашым суцяшэньнем была тая апошняя буханачка, якая да пары чакала нас пад плотам.

Але тую буханачку, тую апошнюю надзею галодных, раней за нас адшукалі сабакі.

Калі мы, ужо далёка за поўнач справіўшыся з падлогай, убачылі ля плоту здратаваны сабачымі лапамі сьнег з чырвонымі, як кроў, крошкамі хлеба, то на хвіліну зьнямелі. Я гатовы быў ашалець. Юр-

**Алена РУЦКАЯ**

— * —

Каханьне першае нам лёсам дадзена...
Як разгадаць, знайсьці яго сьвятло?
Каб выпадковае нас ня прынадзіла
І каб сапраўднае не абышло.
Зьвінеў блакітны май бусьлінымклёкатам,
Вясна іскрылася ў вачах крыніц.
І кожны рух і крок быў лёгкім дотыкам
Да невядомага, да таямніц.
Для весьняй песьні той я словы шчырыя
Сама прыгледзела ў трывожным сьне;
Ды толькі ластаўкі імкліва з выраю
Тады нясьлі вясну ня для мяне.
Як не знайсьці выток, дзе крапляйградзінай
З палону сьнежнага мкнуць ручаі,
Так — і сапраўднасьць там, дзе сэрцу радзілі
Чаромхі хмельныя і салаўі.
Каханьне першае нам лёсам данае, —
Я-ж не разгледзела яго сьвятло:
Шукала яркае, а вось сапраўднае
Так няпрыкмечаным і абышло.







**Генадзь БУРАУКІН**

— * —

Не веру, што з гадамі адыходзіць,
Згасае палкасьць маладых сустрэч.
Прыйдзі ка мне ў пакоры і лагодзе,
Маім рукам і вуснам не пярэч.
І не хавай, як хітрая цыганка,
Няўтольнага агню ў сваіх вачах.
Хай будзе тонкі месяц за фіранкай.
Хай будзе ціхі стогн каля пляча.
Хай згіне ўсё, што ўжо было, што будзе.
Але хай застануцца на вякі
Твае ненапалоханыя грудзі
І ля шчакі цяпло тваёй рукі...



Узоры да вышываньня падушак. — Рыс. Ч. Будзька





Леанід ДАЙНЕКА

* * *

Якая раньняя вясна!
Якая сьветлая надзея!
А ты адна, а ты адна...
Чаму сягоньня ты адна,
Як на рачной вадзе лілея?
Якая раньняя вясна!
А ты жывеш у адзіноце.
Ты — нібы лодка без вясла.
Ты — нібы зорка без сьвятла.
Чаму жывеш ты ў адзіноце?
Лес адшумеў. І дождж прайшоў.
І сьпеў разнёсься жаўруковы.
А твой каханы ня прыйшоў.
Чаму цябе ён не знайшоў
На сонечнай зямлі вясновай?
Якая раньняя вясна!
Не пралівай-жа сьлёз ніколі.
Жыцьцё — ня тонкая струна,
Ня вузенькая баразна,
Яно — бязмежнае, як поле.
Ідзі дарогаю сваёй
На перапёлкі ціхі голас.
Чакае там каханы твой.
Адзін. Пад хмарай агнявой.
Чакае, як жытнёвы колас.



Сяргей ГРАХОЎСКІ

### Высокі Дух

Ні лекамі, ні зельлем прываротным
Ніхто сябе ня зробіць бессьмяротным,
Ніхто не пражыве адзін за двух.
Стаць несьмяротным можа толькі Дух,
Высокі, чысты, сьветлы і сумленны,
Бяз мітусьні, без пахвальбы, бяз пены,
Што асядае плямкаю густой
На мутным дне пасудзіны пустой.
Высокі Дух — парыў самааддачы —
Перад сабою ставіць звышзадачы,
А ўсё, што шчодра аддае другім,
Ня лічыць за пазыкі і даўгі,
Калі-ж няпраўда муляе ў душы,
Сьмялейшаму ня шэпча: «Ты скажы».
Высокі Дух, і на крыжы расьпяты,
Сабе ня просіць літасьці у ката.
Жыць, каб агонь у сэрцы не патух,
Дапамагае несьмяротны Дух.
Як сплаў адвагі, мудрасьці, сумленьня
Ён дойдзе да наступных пакаленьняў.



ка, мабыць, першы раз у жыцьці, вылаяўся і бяз сіл апусьціўся на сьнег. Я хацеў некага забіць. Мы ледзьве дабрылі да нараў...

Праўда, назаўтра, пасьнедаўшы, ужо з меншай тугой паглядзелі адзін аднаму ў вочы, і ў гэтых позірках значылася: "Якія-ж мы дурні!" А яшчэ праз тыдзень расказалі хлопцам пра наш злашчасны заробак. І хлопцы надрывалі жываты ад сьмеху. Ды і мы таксама.

...У хаце густы, ня прадыхнуць, смурод. Нехта мармыча ў сьне, нехта стогне. У двух месцах нават храпуць. На прыпечку дагарае наша апошняя "кацюша". Немец на ложку таксама заціх і, наваліўшыся на калені, сьпіць. На сьцяне за ім змрочна цямнее яго касы і шырокі цень. Дрэмле ля парога санітар. Адзін толькі сержант варушыцца нешта, зручней уладкоўваючы нагу, ды захінаецца ў дэсантную куртку. Пасьля ён зьбіраецца закурыць і піхае цыгарэту ў свой мэфістофельскі муніштук.

Я папраўляю на падлозе маю небараку-нагу. Сержант паднімае голаў.

— Баліць?

— Ды баліць, халера...

— Мая таксама баліць. Удзень яшчэ цярпіма, а ўночы пячэ, як крапівой.

— Мусіць, ноччу ўсе раны болей баляць.

— Ну, а ты думаў!.. — згаджаецца сержант і кажа: — Слухай, младшой, а твой немец быццам нішто.

— Хто яго ведае. Можа і нішто.

— Панімаеш, — сержант засяроджана прыкурвае ад запальнічкі. — Панімаеш, я было хацеў яго шпокнуць. Спачатку. Злы я на іх. Ёсьць такая прычына. Ды гляджу — нейкі ён дужа ўжо не такі, гэты фрыц. Настаўнік. Двое дзяцей... Каб хоць буржуй які... Ці эсэс...

Я маўчу. Я разумею ягоную прычыну і яго злосьць да немцаў. Толькі я думаю: дужа ўжо спрытныя ў нас сталі на суд і расправу. Ні табе начальства, ні трыбунала: захацеў і — шпокну! Якая самаўпэўненасьць! А можа ён трэба там, дзе-небудзь у штабе. Зрэшты, мабыць, вінаваты і я — палонных трэба даводзіць да месца, а не таўчыся з імі па санітарных часьцях, дзе скрозь параненыя, знэрваваныя, злыя. Ну, але гэта ўжо іншая справа.

— Панімаеш, трэйці раз ня шэнціць, — выдыхаючы дым, сьцішана кажа сержант. — Усё не магу. Ці можа цюхця такі стаў?.. Першы дужа паранены трапіўся, устаць ня мог. Узяў ягоную вінтоўку, думаю, зараз я цябе даканаю. Загнаў патрон у патроньнік, а ён гэтак паглядзеў на мяне і кажа: "Данкэ, рус! Найн Сібір!" Ах ты, думаю, гад, Сібіру баішся... Тады жыві. Паспытай Сібіру. Ня стаў страляць. Другога пад Залачовам сцапаў. У разьведцы. Хацеў пырнуць фінкай, ды ня змог — малады такі, пацан пацаном. Як наш Макоўчык. Быў такі ў роце. Худзенькі, тонкі і кашляе. Ну і адвёў у штаб. Чорт з ім, думаю. Трапіцца-ж мне ўрэшце эсэс, тады сквітаюся.

Сержант, крэкчучы, ямчэй прыладжваецца на ложку і хвіліну прыслухоўваецца да грукату нейкай спозьненай машыны за акном.



— Заўтра эвакуіруюць... На якіх месяцы два цяпер адпачынак... Перавязкі. Сястра — вутку! Паскудства адно. Не люблю! — адразае ён і зацягваецца з свайго трафейнага муніштука. Пасьля хмурыцца. — А Макоўчыка праз тыдзень асколкам у пазваночнік... Эх! Разразі цябе ў тысячу трах-тарарах!..

Ён адмыслова лаецца пяціпавярховым матам і злосна плюе ў парог. Побач узьнімае галаву Каця, і я зьдзіўляюся: выходзіць, яна таксама ня сьпіць — паныла сядзіць, насьцярожана скурчыўшыся, нібы адасобіўшыся ад усяго ў гэтай хаце. І да таго-ж, у яе невясёлых вачах поўна сьлёз. Я аж палохаюся.

— Вы што?

Яна нават і не паварочвае галавы.

— А табе што за дзела?

— Ну, я так. Думаў...

— Адстань.

Можна і адстаць, калі няма ахвоты адказаць. Сапраўды, чаго мне набівацца са спачуваньнем, хіба ў мяне мала свайго клопату і свайго болю? Да таго-ж, адольвае стома, і мяне таксама пачынае браць сон. Да ранку, напэўна, яшчэ далёка...

15

Чым бліжэй да вакзала, тым усё больш людзей. На стаянцы таксі — вялікая чарга, якой спрытна распараджаецца дзяжурны з чырвонай павязкай. Спазьнелыя пасажыры бягуць на прыгарадны поезд. З флегматычнай самотай бавячы час, па тратуары праходзіць каменданцкі патруль — двое салдат і маёр. У пятліцах — тэхнічныя эмблемы. Маёру на выгляд пад сорак пяць. Аднак, састарэлі цяпер у арміі, ня тое, што ў вайну... Некалі ў нас у палку самы стары афіцэр — начальнік артузбраеньня — меў трыццаць восем. Камандзір палка — трыццаць два. Батальёнамі камандавалі дваццаці-дваццацівасьмігадовыя хлопцы. Зрэшты, нам, узводным, яны ў той час здаваліся амаль старымі.

Вакзальны вэстыбюль гудзе ад народу. Гамана, мітусьня, і штурханіна. Аднак, здаецца, і плач. Сапраўды, ля дзьвярэй на пэроне плача жанчына, толькі нічога ня відаць — цікаўны натоўп абступае яе суцэльнай сьцяной. Відаць, нешта здарылася.

Уступаючы сваёй цікаўнасьці, я ўзьнімаюся па прыступках на другі паверх і спыняюся ля парэнчаў. Адсюль ужо можна нешта ўбачыць. Сцэна здаецца ня зусім звычайнай, прынамсі, для нашага часу. На шыі ў зьбянтэжанага мужчыны з амаль ужо сівой галавой вісьне жанчына. Касынка яе зьбілася на плечы. Валасы раскудлаціліся. Яна наўзрыд плача і прыгаворвае нешта незразумелае. Разьвітваецца, ці што? Але куды гэта ён выпраўляецца? Мужчына з пакутніцкім тварам стрымана суцяшае яе, гладзіць па плячы адною рукой. Ля ног яго стаіць чырвоны чамадан. Але там ёсьць і блізкія ім людзі. Два даволі дарослыя хлопцы — у стракатай тэнісцы і ў вельветавай куртцы — спрабуюць суцешыць жанчыну.

— Мама, ну хопіць!
— Ну, што ты? Людзі глядзяць. Канчай!
— Ай, няхай глядзяць! — закідае голаў жанчына. На яе счырванелым, залітым сьлязьмі твары — нестрываная роспач няшчасьця. — Няхай глядзяць на маё горачка! Родненькі ты мой Колечка, навошта-ж я цябе спазнала!— лемантуе яна ўжо зусім па-бабску і зноў прыпадае да грудзей зьбянтэжанага чалавека.

Незвычайнае і дзіўнае нейкае разьвітаньне... Нібы ў сорак першым. Я недаўменна паціху сходжу па прыступках. У вэстыбюлі зьяўляецца дзяжурны па вакзалу.

— Граждане пасажыры! Прашу разысьціся! Прашу разысьціся, не парушаць правіл. Граждане пасажыры!..

Але пасажыры яго ня слухаюць — усіх захапіў гэты балючы крык чалавечай душы. Толькі ніхто яшчэ нічога ня ведае, і кожны імкнецца зазірнуць у сярэдзіну натоўпу.

Аднак праз хвіліну плач прыціхае, і жанчына з сівагаловым чалавекам кіруюцца да выхаду. За імі, несучы адзін чамадан, ідуць двое хлопцаў. Натоўп неахвотна расступаецца. Жанчына горнецца да чалавека і ўсё яшчэ хліпае.

З натоўпу вылазіць цётка з кошыкам, ставіць кошык на падлогу і пачынае перавязваць на галаве кваціcтую хустку. Яе абступае вакзальны люд. Усім карціць дазнацца пра сэнс незвычайнай сустрэчы.

— Ай, бабачкі, гэтую-ж кабеціну ейны муж адшукаў! З вайны пагублялі адно аднаго. Цяперака гэта ён прыехаў. Але-ж з ім новая жонка. Вунь, у зялёнай кофце, — сьцішыўшы голас, гаворыць яна, азіраючыся на выхад.

Яшчэ мала што разумеючы, усе ўраз паварочваюць твары на сярэдзіну. Сапраўды, прысланіўшыся плячом да мармуровай калоны, стаіць, сьцяўшы бровы, жанчына. Ні на каго не зважаючы, яна, нібы ў трансе, глядзіць на падлогу. Пасьля, нібы раптам штосьці зразумеўшы, павяртаецца і рашуча выходзіць у другія дзьверы. На пэрон.

— Ой, бабачкі! Як-жа гэта? — пытаецца нейкая кабета, мабыць, першая адчуўшы ўвесь драматызм гэтай недарэчнай сытуацыі.

Аднак усё зразумела. Я болей не хачу на гэта глядзець. Гэта дзіка і страшна. Гэта б'е ў самае сэрца. Ці ня хопіць, праклятая вар'ятка вайна! Ці ня мала табе таго, што ты нарабіла на зямлі дваццаць гадоў назад? Навошта ты яшчэ і цяпер джаліш людзей сваім загубленым джалам?

Але я ведаю: яе шальмоўскім звычкам няма межаў. Пакутуюць маці, што пагублялі дзяцей. Гадамі баляць у калек адарваныя ногі. Тояцца ў зямлі, чакаюць сваіх ахвяр міны. Спозьнена адкрываюцца людзям нечуваныя злачынствы вылюдкаў. На рахунку гісторыі ўсё большае бязьвінных неадпомшчных ахвяр. Дзе віноўнікі?

Вядома, адны ў зямлі. Другіх судзілі і прах разьвеялі ветрам. Трэція мараць пачаць усё спачатку. Але ёсьць і чацьвёртыя, якія вельмі зьдзіўляцца, калі іх абвінавацяць у некаторых, даўніх ужо, справах.

Трымаючыся за падрапаныя парэнчы, я паднімаюся на другі паверх. Здаецца, у дадатак да ўсяго, з кожным годам горшае сэрца. Задышка прымушае спыняцца і хапаць ротам паветра. Вось табе і малады чалавек! Зрэшты, я ведаю: гэта, лекачы лёгкія, я пасадзіў сэрца. Пракляты трышкаў каптан!.. Дранае ашмоцьце, а не здароўе!

Я раздражнены і злы. Бываюць такія хвіліны. Ля буфэта ў зале транзытных пасажыраў — чарга. Доўгі шэраг людзей уздоўж прылаўка аж да самых дзьвярэй. Хацелася-б выпіць кавы. І штоколечы зьесьці. Толькі прыйдзецца доўга стаяць. Але куды мне сьпяшацца!

— Хто апошні?
— Я.

Кароткі, нібы бляск, позірк. Прыгожанькі малады тварык пад бронзавым стажком валасоў. Імгненна ўспыхвае і згасае цікаўнасьць у шырокіх вачах. Вядома, чым тут цікавіцца? Худы, з залысінамі на лбе дзядзька. Да таго-ж — кульгавы... Але, чорт вазьмі, я хацеў-бы нечым ёй спадабацца. Ну, хоць трошачкі. Толькі навошта? Ды я і разумею, што гэта немагчыма. І дзіўлюся з свайго жаданьня.

Не, мусіць, трэба забыцца. Маё адышло. Адгрымела. Побач, выглядваючы кагосьці ў чарзе, ходзяць дваццацігадовыя хлапчукі. Нічога ня скажаш — ладныя, прыгожыя хлопчыкі. Спартыўная пастава. Сьвежыя каўнерыкі адпрасаваных белых кашуль. Якія дурні некалі наламалі столькі дроў з-за вузкіх штаноў! Гэта-ж прыгожа. А для моладзі, мусіць, гэта галоўнае. Прынамсі, у дваццаць год. У нас, праўда, усё было інакш. Мы насілі няўклюдныя шаравары хабэ. І кірзачы. Яны ня спрыялі каханьню. Праўда, і не ў стане былі яго супыніць. Памятаю, калі мы з ёй дзе садзіліся побач, ногі ў нас былі аднолькавыя, не адрозьніць. Хіба што яе боты — меншыя памерам. І такія-ж аднолькавыя шынялькі. Жорсткія, цяжкія ў макрэдзь ды цяпло і сьцюдзёныя ў сьцюжу. І тварык яе быў зусім мала дагледжаны. Аднойчы мы ляжалі пад абстрэлам у разоры, і выбухам яе ўсю заляпіла гразёй. Трапіла ў твар і ў вочы. Яна абмывалася сьлязьмі і нічога ня бачыла. І трэба было бегчы. Тады я ўхапіў яе за руку. Байцы ў ланцугу дзівіліся: чаго яны бягуць, пабраўшыся за рукі? Нібы на гулянцы.

Тая пагулянка пад мінными выбухамі зрабіла сваю справу. Да і без таго немалых турбот прыбавілася новая. Я пільнаваў яе, дзе толькі мог. Пры кожным выпадку мерыўся збегаць у батальённы тыл. Меў некалькі непрыемнасьцяў з ротным. Я зьбіраўся ёй нешта сказаць. Самае важнае і самае першае маё слова. Толькі я прыпазьніўся. Кастлявая мяне апярэдзіла. У вялікім прыдняпроўскім сяле над паплавамі застаўся жвіровы курганок, які адабраў яе ў жывых. Усё астатняе, што здарылася ў мяне потым, было ня тое і не такое. Ды і сам я стаў не такі.

Аднак, чарга чамусь разыходзіцца. Скончыліся піражкі. Міла хмыкнуўшы, пайшло і маё дзяўчо. Тыя, што засталіся ў чарзе, пасоўваюцца, і я апыняюся ля самага прылаўка. Кава яшчэ ёсьць. І то няблага. Пасьля той гарэлкі даймае смага. І тут я бачу яго.

Нейкі час, нібы зьмярцьвеўшы, моўчкі гляджу на яго. Ён адыхо-

дзіць ад чаргі і спыняецца. Пасьля зноў вяртаецца да стойкі і нешта там разглядвае за шклом. Бразгае драбязой у жмені. Выгляд у яго маўкліва-заклапочаны. Сахно! Далібог, Сахно!

Так, цяпер або ўжо ніколі! Я буду блазьнюк, калі яго ўпушчу. Зараз я дам яму ў морду. Галоўнае не прамарудзіць. Біць коратка і ад сябе, усім корпусам на руку. Ён упадзе на падлогу. Або на бар'ер буфэта. Будзе скандал. Прыбяжыць міліцыянер. І я скажу, чаму так зрабіў. Няхай тады мяне судзяць.

Я выходжу з чаргі і раблю два крокі наперад. Сэрца маё адразу пачынае галоп. Аднак чакай, сэрца! Патрымайся! Не падводзь!

Але тут нехта падыходзіць да прылаўка і становіцца з ім побач. Я прыкусваю вусны — ён мне перашкаджае. Раптам Сахно паварочваецца і глядзіць проста мне ў твар.

Яго бровы ўздрыгваюць. Пазнаў, гад! Але вочы адразу спакайнеюць. Ён совае ў паліто руку і звонка ссыпае ў кішэнь драбязу.

— Не ўдалося?

— Што?

— А ў гасьцініцы.

— Не. Не ўдалося, — кажу я не сваім голасам. І, нібы заварожаны, гляджу ў яго выцьвілыя, нярухомыя вочы.

— Пракляты горад! Паесьці не даб'ешся. Вы вячэралі?

— Не.

— Можа, падыдзем у рэстаран? Тут насупраць.

Я, абмярцьвеўшы, стаю. Як дурань. Як ідыёт. Ён, мабыць, і лічыць мяне ідыётам. Але я зноў ня ведаю, што рабіць. Я не пазнаю яго. Сахно і не Сахно.

— Ну? Саставіце кампанію?

Ён ідзе між людзей у дзьверы, і я зьбянтэжана іду за ім. Першы, самы спрыяльны момант упушчаны. Цяпер я ўжо не магу наважыцца. Мяне скоўвае сумненьне. Хіба патрабаваць у яго дакументы? Або запытаць прозьвішча? Аднак гэта ня можа цягнуцца доўга. Я ня ўтрываю.

Мы выходзім з залы чаканьня. Ён азіраецца на мяне.

— Бурдэль, а ня горад. У нас, у Харкаве, варта пазваніць, і гасьцініца забяспечана. А тут ня могуць забраніраваць адно месца. Рэспубліка называецца!

Сволач! Што ты ведаеш пра гэтую рэспубліку? Не дасталася месца ў гасьцініцы? Скончыліся піражкі? А пра паўмільённую армію партызан у гэтай рэспубліцы ты чуў? Пра дзевяць тысяч беларускіх арудараў і лідзіцэ ты ведаеш? Пра два з лішкам мільёны бязвінных ахвяр?

Я ледзьве стрымліваю нэрвовую дрыготку ўнутры. А ён распранаецца ў гардэробе. Перад люстэркам старанна расчэсвае рэшткі свае чупрыны. Пасьля мы заходзім у залу. Тут таксама бітком. Вольных сталоў няма, і мы ідзём між радоў. Але вось ля акна ўстаюць з-за стала чацьвёра афіцэраў. Мы адразу займаем іх месцы. На абрусе — гара непрыбранага посуду. Ён грэбліва адсоўвае ад сябе



талеркі.

Размаўляць са мной у яго, відаць, прапала жаданьне. Мусіць, субяседнік я кепскі. Але мне зусім не да размовы. Мяне точыць пытаньне: ён ці ня ён? У галаве зачынаецца прарэзьлівы звон, рукі прыкметна дрыжаць. Ён-жа мяне, напэўна, не пазнае. Ну што-ж, тым лепей! Я напружваюся, як перад скачком у атаку, і пытаю ва ўпор:

— Вы — Сахно?

— Што? Не, не Сахно.

Не Сахно! Іншай магчымасьці дазнацца, хто ён, у мяне няма. Я напружваю розум, каб знайсьці, што рабіць далей. А ён закідвае на калена нагу і адхінаецца ў крэсьле. Дастае з кішэні газэты. Здаецца, ён вельмі спакойны. Зусім заняты сабой. Ніводная жылка на ягоным твары не здрыганецца. Шархочучы газэтай, кідае на мяне позірк.

— А чаму вы пытаецеся? На некага падобны? Ага?

Падобны.

— Бывае, — выдыхае ён і ажыўляецца: — Я ў Харкаве аднаго інжынера, мусіць, цэлы год блытаў з бухгалтарам упраўленьня. Падобныя, як дзьве кроплі вады.

Чорт! Здаецца, я ўліп! Няўжо сапраўды ня ён? А мо прытвараецца? Нешта адчувае і баіцца? Пэўна-ж, што-колечы з свайго мінулага ўтаіў.

Аднак не. Паводзіць сябе натуральна і ўпэўнена. Шырока разгортвае газэту, другую працягвае мне.

— Пачытайце. Пакуль тут дачакаешся...

І, не дагаварыўшы, засяроджваецца ў чытаньні. Я машынальна аглядаю загалоўкі. І не разумею нічога.

Калі не Сахно, дык гэта жахліва. Я-ж мог яго пакалечыць. А калі ўсё-ж ён? Няўжо я і цяпер застануся ў дурнях. Як дваццаць гадоў назад...

Што-ж, пачакаем.

Ён чытае засяроджана і грунтоўна. За наш столік болей ніхто не садзіцца. Афіцыянтка таксама ня ідзе. Я няўцямна гляджу на шчыльныя газэтныя радкі і не магу заглушыць у сабе амаль роспачнага крыку памяці...

## 16

Сон разрываецца выбухам:

— Тр-р-рах!.. Лоп-лоп-лоп... Шы-ш-ш-ш-ш-ш-ш...

І яшчэ:

— Тр-р-рах! Тр-р-рах!.. Шр-рык!

Што гэта? Дзе гэта? Фу ты, пляснула чымсь мокрым па твары, па сьпіне: мурашкі ці, можа, пясок... Я ўсхопліваюся і адразу разумею — бяда!

У хаце амаль відна, у вокнах сьвітальны ранак. Мяне абдае хваляю сьцюжы, сьнегавой пацярухай сыпле на галаву, за каршэнь. На падлозе зьбянтэжаныя твары людзей. Ля ложка, лежачы ніц, ашчапервае голаў сержант. Зьверху сыплецца перамешаная са сьнегам тын-

коўка.

—Тр-р-рах! — здаецца, пад самым акном грымотна б'е новы выбух.

У акно шугае косма сьнегу з зямлёй. Дробныя асколкі шкла шротам абдаюць патыліцу. Міжвольна хіснуўшыся ад выбуху, я зусім пазбаўляюся ад санлявае няўцямнасьці і палохаюся — дзе Юрка? Але Юрка побач, ён таксама недаўменна лыпае заспанымі вачыма і пытаецца:

— Што такое? Га? Бамбёжка, га?

Не, Юрка, не бамбёжка і нават не звычайны агнявы налёт. Гэта іншае. Я баюся яго, гэтага іншага, ад аднае толькі думкі аб ім у мяне халадзее ў сярэдзіне. "Тр-р-рах! Тр-р-рах!" — б'юць два разрывы далей, знадворку. Там нехта ў дзікай лютасьці лаецца — чуваць абрыўкі нэрвовай апантанай гаманы, тупат ног. Нешта там робіцца кепскае. А я з усяе сілы ўслухоўваюся скрозь гэтую мешаніну гукаў, і — прападзі яно пропадам, гэта ўчарашняе маё прадчуваньне! — яно не ашуквае. Між выбухаў чуваць, як недзе далёка яшчэ, але досыць выразна і цягуча гудуць танкі.

Ну вось і дачакаліся! Даспаліся, даадпачываліся, даспадзяваліся, так яе растак! Цяпер расхлёбвай!

Мусіць, іншыя таксама ўжо нешта чуюць. Сержант, за ім Каця і Юрка кідаюцца да ўшчэнт разнесеных выбухамі акон. Ускокваю на адной назе і я, яшчэ нехта шастае да акна. О, там карціна! Самая брыдкая з усіх карцін на вайне — "драп"!

Па вуліцы, па гародах, міма нашай хаціны і воддаль бягуць з сяла людзі. Адзіночкі, групы, шалёна скачуць коні; раскідваючы абланцужанымі коламі сьнег, па адной імчаць машыны. Відаць, усе, хто тут быў, рынуліся на аколіцу, міма пабітых асколкамі мазанак, сігаючы цераз плятні, падаючы і ўскокваючы. Непадалёк, ля суседняй хаты, на вуліцы дымна палае разьнесены выбухам "студабэкэр". Побач з перакуленай фурманкай, канаючы, дрыгае нагамі конь. "Тр-р-рах! Тр-р-рах! Пі-і-іў... Пі-у-у-у... Тр-р-рах!" Там і тут б'юць выбухі. Але мы ўжо не зважаем на іх — мы ўпіваемся позіркам у далячынь за сялом. Там па крутаватым схіле са стэпу ўпаўзаюць у ваколіцу танкі.

— Жвік — жвік — жвік! Тр-р-рах!

Выбух кідае нас на падлогу. Хата прыўзьнімаецца і асядае. Здаецца, рушыцца столь. Пыльным, сухім смуродам забівае дыханьне. Нехта енчыць, хтосьці разьюшана лаецца і, ускочыўшы, кідаецца да дзьвярэй.

— Лажыся! Лажыся, так вашу растак! — крычыць у пыльным смуродзе Каця. Яна па-мужчынску лаецца, але цяпер гэта нікога ня дзівіць — як-жа інакш, калі такое творыцца! Тынкоўка са сьцен і столі густа зацярушвае галовы і сьпіны. Юрка ўзьнімае твар, яго не пазнаць — адзін толькі поўны трывогі і зьбянтэжанасьці позірк: што рабіць?

— Сястра! Сястрычка! Ой, ратуй-жа!.. Ой! — лементуе хтосьці ў хаце. Пыл хутка выдзьмувае ветрам, сапраўднаю сьнегавой віхурай,



бо ўжо ні вакон, ні дзьвярэй. Дзьверы, прынамсі, расчынены, і на парозе распласталася нярухомая постаць. Гэта наш санітар, што ўчора на тое самае месца кідаў трусоў. Над кутам у столі пралом з дзіркай на вуліцу. У ёй курыцца сьнег, і пад ім на саломе сьлепа таўчэцца абвязаны пыльнымі бінтамі лётчык. Каленямі і локцямі ён штурхае-тармосіць суседа.

— Эй, таварыш! Таварыш!

З-пад шыняля тырчаць доўгія ногі ў "кірзачах", яны не крануцца. Здаецца, ягоны сусед, які ўчора кідаўся на немца, "ужо". Але папала ў хаце, відаць, не аднаму.

— Сястра! Сястрыца! — енчыць хтосьці ў другім куце (ці ня той рабаваты). — Кроў... У другі раз гвазданулі, гады!

— Што-ж гэта робіцца, браткі? Трэба-ж нешта рабіць!

— Ціха! Ціха! Лажыся! — камандуе Каця і з трэскам разрывае чарговы перавязачны пакет. Яна з распушчанымі валасамі, без шапкі кідаецца па хаце, то ў кут, дзе ня ўнімаецца звар'яцелы, нявідушчы лётчык.

— Сястра! Сястра! Дзе сястра?

Каця нахіляецца над абвязаным і, безуважная да ягонага суседа, настойліва ўкладвае небараку.

— Ладна, ладна... Усё будзе добра. Ты ляж. Ляжы.

Яе на дзіва роўны, спагадлівы цяпер голас на хвіліну ўціхамірвае байцоў. Абпалены неяк нерашуча прымаўкае. Каця цераз людзей ступае ў другі куток, да перагародкі. Там хтось нема стогне.

Ля печы ўзьнімаецца з падлогі апошні наш санітар — маленькі спалоханы пажылы чалавек, і Каця крычыць яму:

— Ты! Бягом да начальства! Ну, жыва! Падводы жыва!

Санітар, прыгнуўшыся, боязна сігае цераз труп напарніка на парозе і зьнікае ў сенцах. За акном з грукатам шалёна мчыцца падвода. Панадворкамі бягуць людзі. Трашчаць разрозьненыя таропкія чэргі.

— Счас, родненькія! Счас! Усё будзе добра. Усё добра, — прыгаворвае Каця.

Я азіраюся на Юрку, ён ляжыць на баку побач і кусае вусны. У вачах майго сябры напружаньне трывожнае думкі. Мусіць, у маім позірку ён бачыць запытаньне і поціскам рукі хоча супакоіць.

— Ладна. Ладна, чакай.

Чакаць, вядома, ня самае лепшае — хутчэй горшае. Якраз чакаць цяпер і нельга. Кожная хвіліна прамаруджаная, пэўна, неўзабаве будзе нам каштаваць многа. Але што рабіць? Ось дык трапілі з полымя ў пекла! Называецца, пакімарылі ноч — усё пракімарылі. Спазьнелае шкадаваньне за ўчарашняе, прыкрасьць, боль і страх урываюцца ў мае пачуцьці. Хочацца зараз-жа нешта перайначыць, некага абвінаваціць. Толькі хто тут вінаваты? Хіба што я. Трэба-ж было ўчора гэтак супакоіцца, забыцца ў зацішку, аддацца радасьці сустрэчы з Юркам, махнуць на тую сустрэчу ў стэпе! Цяпер вось атрымлівай!.. Паспадзяваўся, называецца, на мудрую дбайнасьць іншых...

Скурчыўшыся на саломе, я ўслухоўваюся ў грымотную калатнечу

на вуліцы. Побач, таксама ўвесь насьцярожаны, — Юрка. Выбухі распласталі нас на падлозе, і мы жывём хваравітым, напружаным слыхам. На двары тупат ног, зморан стогн, кароткая гамана. Раптам нада мной чуецца труднае дыханьне. Я паварочваюся — у акне потны, устрывожаны твар, і ў вачах ашалелая зацятасьць сьпешкі.

— Эй, славяне, дзе тут сястра?

— А што, падвода? Ага? Давай сюды!

З падлогі ўскоквае сержант і хапаецца за падаконьнік. Але твар там зьнікае. Кароценькая надзея ўзгараецца ўнутры — авось, па нас! Хаця для адной падводы замнога людзей. І тут я ўпершыню за гэты ранак сустракаю забыты ўжо, самотна-цярплівы позірк. Гэта курчыцца пад ложкам мой немец. Як госьць на чужой бядзе, забіўся туды і чакае. Чаго толькі чакае?

Кулі або асколкі б'юць па падстрэшшу. Ветрам заносіць саламяную пацяруху са сьнегам. Мы ўгінаем галовы — халера, відаць, яны ўсё-ж даканаюць нас! У сенцах у гэты час тупат. Праз расчыненыя дзьверы, пераступіўшы цераз санітара, увальваецца баец у целагрэйцы. За ім другі з вінтоўкай за сьпіной — яны ўвалакваюць некага ў шынялі і апускаюць ля печы.

— Сястра! Дзе сястра! Во паглядзі хутчэй...

Каця таропка завязвае канцы бінта на нечай голай, скрываўленай сьпіне і цераз людскія целы лезе ў парог.

— А што вы мне яго прынесьлі? — праз хвіліну крычыць дзяўчына. — Я не пахавальная каманда! А ну, выносьце назад!

Я пазіраю на зьбялела-жаўтлявы твар чалавека, і мне здаецца, што гэта ўчарашні прыдзіра-капітан, які правяраў нашы дакументы. Вось табе і на: не памагла і пільнасьць! Каця, аднак, не пазнае яго, а мяне ён чамусьці зьдзіўляе і бянтэжыць. Я заўжды не магу паверыць у гібель людзей строгіх і ўедлівых наконт вайсковае службы. Толькі, мабыць, я памыляюся. Гэта ня ён.

На потным твары байца — зьдзіўленьне, амаль што спалох.

— Як гэта назад? — ціха пытаецца ён.

— А так. Ня ведаеце, як? — кідае яна і падаецца ў кут да амаль звар'яцелага лётчыка.

— Ляж! Ляж! Ну што ты — ляж! — угаворвае яго Каця, бо ратаваць яго суседа позна, таксама як і таго капітана.

Баец зьбянтэжана стаіць ля печы. Мне вельмі добра відаць тое страхавітае зьдзіўленьне, што адбіваецца на яго схуднелым, зашчаціненым твары. Хвіліну ён недаўменна пазірае на труп у доле і ўрэшце паднімае рукавіцу, каб абцерці пот. І тут:

— Тр-р-рах!

Гэта блізка, але ня так, як у папярэднія разы. На Юркаў шынель адлятае адшчэпленая ад падаконьніка гнілаватая трэска, а баец з рукавіцай, ацярушваючы сьпіной пабелку, хуценька спаўзае долу. Я яшчэ не спраўляюся даўмецца, што адбылося, як ён абмяклаваліцца на бок і глуха дзеўбаецца галавой аб падлогу. На ашчэраных ягоных зубах пузырыцца пена. Яго напарнік кідаецца ў сенцы.



На падлозе лаецца сержант:

— Дзе той санітар? Дзе начальства? Праз хвіліну паўграбляе ўсіх!..

Хапаючыся за ложак, ён няўклюдна ўстае і, выстаўляючы наперад простую, як бервяно, нагу, ступае да мяне.

— Давай аўтамат! Я ім, у ... душу, навяду парадак!..

Гэта так упэўнена і катэгарычна, што я адразу, не падумаўшы, аддаю яму свой ППС. Сержант таропка скача да дзьвярэй. Каця крычыць з кута:

— Падводы! Падводы давай сюды! Чуеш?

— Не глухі! — далятае ўжо з сянец.

Мы зноў чакаем, прыпаўшы да закіданай друзам падлогі. У сяле бой. На ўсю грымяць танкі, гахаюць іх гарматы, імпэтна заліваюцца кулямёты. Аднак штосьць там застапарылася — усё-ж, відаць, апомніліся "славяне", упёрліся і пакуль што трымаюцца на той ускраіне. Толькі ці надоўга?

Юрка, мусіць, непакоіцца аб тым-жа і, прыўстаўшы, пачынае выглядваць з-за касяка. Я гляджу на яго зьнізу, але на твары сябры ні кропелькі палёгкі. Здаецца, у гэты раз бяда ўзвалілася на нас як мае быць.

Неўзабаве Юрка апускаецца на дол.

— Ты ісьці ня можаш?

Я варушу параненай ступнёй. Баліць, халера! Як тут ісьці? Юрка бяз слоў разумее.

— Так. Значыць, так. Я... Трэба туды, — ён ківае галавой за акно. — Там зусім мала. Панімаеш?

Я разумею. Вядома-ж, трэба біцца. Аказваецца, вайна для нас учора ня скончылася, перадыху ня будзе (дурныя наіўныя мары). Барацьба прадаўжаецца, і трэба ісьці ў бой. Лацно здаровым — вунь колькі іх дало волю нагам! Нам-жа выбар невялікі — палон або сьмерць. Ну што-ж!.. Толькі вось рана...

Юрка тым часам ссоўвае наперад кірзавую кабуру, левай рукой дастае ТТ. Магазын у яго няпоўны. Адной рукой ён няспрытна шарыць у кішэнях, дастае некалькі патронаў, нязручна запіхвае іх у магазын. Я таксама выграбаю з сваёй кішэні, што ёсьць там з боезапасу. Набіраецца жменя аўтаматных патронаў, і я аддаю Юрку. Той з рашучасьцю на твары, хоць, здаецца, трошкі панылa, устае на ногі.

— Ну, трымайся...

Ён кароценька ўсьміхаецца аднымі вуснамі, і ў гэтай яго ўсьмешцы — горкая абнадзеянасьць, у якую ён сам ня верыць. Значыць, зноў ростань, зноў ён ідзе, і, можа, на гэты раз назаўжды. Ну, вядома-ж, наўрад ці ён вернецца адтуль. Але тады і я не хачу быць тут — паміраць, дык разам. І я ўсхопліваюся ў першым парыве — была ня была! Так ці ня так — дадумваць цяпер няма калі.

— Дай руку...

Ён няўцямна азіраецца, на імгненьне марудзіць і нерашуча дае зда-

ровую руку. Я ўстаю і, прытрымліваючыся за ложак, скачу ў парог. Чорт, на адной назе вельмі нязручна! Каб хоць на што абаперціся. Я прыпыняюся. Юрка наперадзе, зразумеўшы мае турботы, кідае наўкола позірк. У куце ля парога чыясь вінтоўка, ён хапае яе і дае мне. Гэта звычайны нямецкі карабін, толькі з чорнаю ложай, і я абапіраюся на яго, як на палку.

Ужо з большай упэўненасьцю мы пералазім цераз траіх забітых і выбіраемся на закіданы кавалкамі зямлі двор.

працяг будзе

÷ ÷ ÷

Я. Колас

# У ГЛЫБІ ПАЛЕСЬСЯ

## НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

працяг

### XII

Канчалася лета.

На лугах ужо рассьцілалася зялёнымі аксамітамі пяшчотна-кволая атава. Парыжэлі стагі. Зьбіраліся ў вырай буслы. Агорнутыя сіняватаю смугою, журботна пазіралі далечы і ніклі ў сьвятле жнівеньскага сонца.

Пачалі разьязджацца з летніх вакацыяў настаўнікі.

Пажыў, брат, і годзе: зьбірайся на сваё седала! — У гэтым голасе восені чуваць нейкі смутак, а, здаецца, так нядаўна яшчэ гучаў другі голас, радасны, сьвежы голас вясны: — Разгарні крыльле, рушся з месца, ляці на прастор, жыві, як толькі ты здольны жыць.

Назначыў сабе дзень ад'езду і Лабановіч.

Дубейка пераслаў яму пошту, але таго пісьма, якога так прагна чакаў, аб якім так многа думаў і аб якім не гаварыў нікому, а толькі насіў у сваім сэрцы, ня было і ня было. І ня будзе. Лета прайшло, прайшла і надзея. Ну, што-ж? Пажартавала дзяўчына, а цяпер гэтыя жарты прайшлі; там, у глушы, дзе апроч яго, нікога ня было, можна было і з ім пажартаваць, пасьмяяцца з яго, дурнога. Але такі канец, такі вывад спакою ня дасьць, не, ня дасьць.

Нядаўна прыйшоў казённы пакет — назначэньне ў Выганаўскую школу. Углядаўся Лабановіч у гэтае слова: якраз яно і падыходзіць яму. Проста аж нейк дзіўна трохі, бо ў гэтым слове чуецца як-бы нейкае выгнаньне. І чаму ў гэтым "выгнаньні" чуваць сугучныя акорды яго сэрцу? Што выгнана з яго? Хто выгнаў?

Ён думаў і аб сваёй новай школе. І гэтая школа, і гэтыя Выганы, аб якіх ён ніколі раней ня чуў, уплятаюцца ў яго жыцьцё, уяўляюцца ў тых няясна прывабных тонах-абрысах, што такія прыгожыя здалёк, але ніколі не супадаюць з рэчаіснасьцю. І аднаго гэтага паэтычнага вобраза новага месца было мала. Пайшоў у Мікуцічы ў школу, каб знайсьці на мапе свае Выганы, паглядзець, якія там ёсьць болей



значныя пункты. Настаўнікі амаль усе разьехаліся, і ніхто не раскажа аб новай школе.

Зайшоў да Садовіча. Хацелася-б з прыяцелем падзяліцца навінаю. Садовіч таксама чакаў назначэньня. Нечакана спаткаў Лабановіч там і другога свайго прыяцеля па сэмінарыі, Янку Тукалу. Гэта быў замкнуты ў сабе юнак, круглагаловы, бялявы, з задраным трохі ўгору носам і шэрымі вачамі. У сэмінарыі ён трымаўся ў баку ад сваіх таварышаў і ўсё нешта думаў. Што займала яго мысьлі, ён нікому не гаварыў. У яго душы, відаць, адбываўся нейкі балючы працэс, і ён перажываў гэта моўчкі, патаемна. Часамі ўдавалася яго развактушыць, і тады ён рабіўся вясёлым, жартаўлівым, здольным усіх захапіць сваімі жартамі і сьмяяўся такім заразьлівым сьмехам, што нельга было не паддацца яму.

Выпадкам Тукала адкрыў у сабе адну ўласьцівасьць. Было гэта на другім курсе. Тукала заўсёды быў коратка астрыжаны. Валасы ў яго былі жорсткія, стаялі тырчаком. Раз, кладучыся спаць, зьнімаў ён суконную кашулю. Шаргануўшы ёю па валасах, ён пачуў нейкі дзіўны трэск і зацікавіўся. Шаргануў яшчэ раз, зноў пачуўся той-жа трэск.

— Гэй, хлопцы, — гукнуў ён, накрыўшы галаву кашуляю, — ідзіце сюды — у мяне, аказваецца, не галава, а машына электрычная!

Вакол Янкі зьбілася чалавек з дваццаць сэмінарыстаў. Затаіўшы дыханьне, слухалі трэск у яго валасах, калі па іх шоргала кашуля, а потым заліваліся дружным рогатам.

— Плаціце, пся маць ваша, грошы, — сьмяяўся і сам Янка, забаўляючы таварышаў.

І вось гэты самы Янка Тукала стаяў цяпер каля гумна, дзе на лета пасяліўся Садовіч

— Янка! Ты-ж гэта адкуль узяўся? — зьдзівіўся Лабановіч і патрос Янкаву руку.

— Дзён майго вандроўніцтва сто сорак, — нейкім біблійным тонам адгукнуўся Тукала: — Абышоў я чатыры ветры зямлі, узважыў чалавечае жыцьцё і знайшоў, што яно падобна быдлячым ляпёшкам, параскіданым па выганах.

— Бадай-жа ты згарэў са сваім вывадам, — сьмяяліся яго сябры.

— Га-га-га! — рагатаў Садовіч, — ты ведаеш, — зьвярнуўся ён да Лабановіча, — ён-жа сьвятым хацеў быць — на Валаам езьдзіў веры шукаць!

— Ня можа быць!

Янка вінавата пасьміхаўся і не пярэчыў. Лабановіч і Садовіч пазіралі на яго і рагаталі.

— Чаго вы рагочаце, вельзэвулавы дзеці?

— Бадай-жа ты скіс, Янка! Сьвятым хацеў зрабіцца!

— Не знайшоў я праўды і болей шукаць яе там ня буду. — Жыў я, браткі, адзін. Глуш, нікога няма, часу многа. Начытаўся я ўсялякай душазбаўнай літаратуры, і пацягнула мяне пад царкоўныя сьцены. Пасьціў, брат, зьбіраў грошы, каб на Валаам паехаць. А скончыў я

тым, што вярнуўшыся, расчараваўся.

— У цябе, брат, усё крайнасьці, няхай ты згары, — заўважыў са сьмехам Садовіч.

— Не, браткі, цяпер я хачу жыць іначай. Годзе гэтага лайдацтва. У іншыя гарызонты перавяду я вочы свае. Перш за ўсё — месца перамяніць трэба, хоць з другога боку — ня месца красіць чалавека, а чалавек месца. Я хачу Басавым суседам быць, а яшчэ лепш — у адну школу з кім-небудзь з вас папасьці, бо калі я адзін, я зноў нейкае глупства зраблю — натура мая такая сабачая. Думкі ўсё нейкія ў галаву лезуць.

— А я, хлопцы, пераведзены ў другое месца, — пераняў Янку Лабановіч, — у Выганаўскую школу.

— Цябе ўжо, як нейкую жывёлу, пагналі на выган, — пажартаваў Янка.

Пажартавалі трохі сябры, а потым пачалі гаварыць аб сваіх школах, пераводах, аб сваіх адносінах да так званай інтэлігэнцыі, з якою прыходзілася жыць.

— Можа, яны шчасьлівейшыя за нас, усе тыя, што ў карты гуляюць і гарэлку п'юць? Ім гэта люба, у гэтым іх радасьць, і яны ніякіх чартоў знаць ня хочуць. А я дык і піць не хачу — праціўна! Карты ня горнуць мяне, а дзяўчаты хоць і хіляць, але я з сваім "імбрычкам", — так назваў Янка свой нос, — саромеюся паткнуцца да іх. Мне ўсё здаецца, што яны сьмяюцца з мяне. Што-ж мне рабіць? — пытаў Янка. Сярё'знае і жартаўлівае перамешвалася ў яго прамове. — Я пачынаю думаць, што да ўсяго трэба падыходзіць з нейкаю меркаю, але гэтай меркі ў мяне няма. Сёньня яна — мерка, а заўтра — глупства, і я сам адмяняю яе сваёю ўласнаю рукою. Я кідаюся ад аднае тэорыі да другой, бяруся за адно, хапаюся за другое і ўсюды адстаю. Чытаеш адну кнігу, здаецца — тут праўда. Возьмешся за другую, і з ёю згаджаешся. Цяпер вось захапіўся Ніцшэ "Так казаў Заратустра", і мне хочацца быць "надчалавекам", чорт вазьмі! А калі строга падумаць, то выходзіць, што ты проста чалавек з пакалечанымі сэмінарскім выхаваньнем мазгамі. Я, аб вас я не адважваюся гаварыць гэта, хоць і вы, напэўна, такія-ж хісткія, як і я, я — дрэва ў полі, што хіліць галіны туды, куды вецер вее.

— Ну, гэта — вельмі пэсымістычнае прызнаньне, Янка, — азваўся Садовіч.

— Янка, дарагі! Руку, брат!

— Ты, значыцца, згаджаешся са мною? — і Янка са зьдзіўленьнем паглядзеў на Лабановіча.

— А ні на валасок, — адказаў Лабановіч, — дый у чым з табою згаджацца? Ні да якога-ж заключэньня ты ня прышоў, ты толькі паказаўся з новага для мяне боку. Але я люблю цябе за пакуту тваю, як гэта сказана ў Дастаеўскага, за тое, што ты ня стаіш на месцы, што ты мітусішся, праўды шукаеш і "хочаш свае пагібелі" — так-жа казаў Заратустра. Няхай мы — тыя дрэвы ў полі, што стаяць пад ветрам, няхай нахіляюцца галіны ў той бок, куды дзьме вецер. Але-ж



ветры веюць з розных бакоў, і галіны хіляцца і туды, і сюды. Аднак здаровае, моцнае дрэва будзе стаяць роўна, а галіны яго больш нахіляцца ў той бок, адкуль сьвеціць сонца. Штука-ж уся ў тым, як намацаць галінамі гэтае сонца.

— Ты ўжо, я чуў, намацаў "галінамі сонца", калі думаў падняць мікуцічан зрабіць грэблю? — запытаў, сьмяючыся, Янка.

— Дык і ты намацаў гэтае самае сонца, калі думаў знайсьці яго ў Валаамскіх манастырах! — заступіўся за Андрэя Садовіч.

— Падняць сяло, зрабіць добрую грэблю, па-мойму, важна. А што не ўдалося падняць сялян, каб зрабіць самім-жа ім карысную работу, то гэта ня значыць яшчэ, што іх наогул не падымеш і падымаць ня трэба: не падняў цяпер, падымеш потым. Ды брацца за гэта трэба можа нейк трохі ня так. Неабходна лічыцца з тым, што народ малакультурны, кансэрватыўны, ня ўмее цаніць сваіх грамадскіх інтарэсаў і ня прывык выступаць грамадою. Але-ж яму трэба гэта гаварыць, будзіць яго, катурхаць. І, па-мойму, гэта ёсьць наш абавязак... Але што казаць аб народзе, калі настаўнікі не разумеюць гэтага!

— Праўда, брат, — сказаў Садовіч: — Народ наш сьпіць, воля яго спаралізавана, у яго многа нянек, апекуноў, з яго рук выбіта ўсялякая ініцыятыва... Вось дзе карэньне яго бяды... Я, хлопцы, вельмі задаволены, што мы спаткаліся і пагаварылі. Праўда, мы, як у лесе; ходзім вобмацкам, як сьляпыя. Мы павінны перш за ўсё шчыльней адзін аднаго трымацца, каб разам выбіцца на нейкую дарогу, павінны падганяць самі сябе, каб не заснуць і не ўгразнуць у балоце. Я цьвёрда намерыўся тут застацца. Янка будзе маім блізкім суседам. Вось шкада толькі, што ты, Андрэй, забіўся ў гэтае Палесьсе.

— З вамі я чуюся весела і пайду на што хочаце, — разышоўся Янка. — У мяне, браткі, і сны бываюць цікавыя. Я ўсё зьбіраюся запісаць іх у навучаньне патомкам.

— Ну, што-ж? Будзем пісаць пісьмы, дзяліцца сваімі думкамі і ня губляць адзін аднаго з вока, — перапыніў Янку Лабановіч.

— Дык давайце заключым трыумвірат! — крычаў Янка.

— Давайце!

І сябры з запалам пацiснулі адзін аднаму рукі ў знак свайго саюзу.

На мапе ў школе Лабановіч не знайшоў свайго новага месца.

"Напэўна, яшчэ большая глуш, як Цельшына", —думаў ён.

Дасталі "Памятную кніжку Мінскай губэрні", дзе звычайна былі адзначаны ўсе ўстановы і школы. У кнізе значылася і Выганаўская школа, што трохі ўсьцешыла і заспакоіла маладога настаўніка, але дакладнага адрыса ня было. Адно толькі дазнаўся Лабановіч: ехаць трэба ў Пінск, а ўжо адтуль дабірацца да школы.

Напярэдадні ад'езду пайшоў Лабановіч у лес, каб апошні раз аглядзець свае грыбныя абходы і разьвітацца з імі.

У лесе было зусім ціха. Скрозь галінкі выносных хвоек прабіваліся цёплыя косы верасьнёўскага сонца. Пажоўклыя калюшкі без шуму ападалі на дол, ледзь зачэпіш галінку. Дзесь у небе закрычалі жураўлі, шыбуючы ў вырай. Лабановіч адчуваў нейкую мяккую жур-

боту, навеяную і цішынёю лесу і гэтым заміраньнем жыцьця. І розныя думкі, лёгкія, як цені хваёвых галінак, журботныя, як курлыканьне жураваоў у небе, снаваліся ў яго сэрцы.

Было чагось шкада, як-бы нейкая страта напаткала яго. Думаў аб сваім новым месцы, складаў плян жыцьця і работы там. Успаміналася Цельшына. Цяпер яно нейк адыходзіла ад яго, ахіналася змрокам, рабілася пустым і чужым, бо ня было там таго мілага вобраза, што даваў жыцьцё і радасьць. Гэты вобраз неадступна хадзіў з ім па лесе, адганяў іншыя думкі, змушаючы думаць аб сабе. І словы Ядвісі: "Калі вы мяне пацалуеце, то, клянуся памяцьцю мацеры, я кінуся пад машыну" — ніяк не забываліся, і сама яна, як жывая, стаяла ў яго ўвесь час перад вачамі.

На другі дзень на захадзе сонца запрог дзядзька Марцін чорнага коніка, якога празваў за жвавасьць "Ножыкам", каб завесьці пляменьніка на станцыю. Невялічкі чамадан быў загадзя зложаны, сабраны ў дарогу.

— На добры лад, дык і каня запрагаць ня варта было-б, — казаў Лабановіч, паважваючы ў руцэ чамадан.

— Навошта-ж, сынок, ты будзеш трапаць ногі? Не зьвярэдзіцца конь, гуляе цяпер.

Пакінуў Лабановіч грошы на дарогу, як заехаць, а рэшту, рублёў сем, аддаў мацеры.

— Прышлі-ж, сынок, ліст заехаўшы, як ужо будзе табе паводзіцца там.

Пацалавала маці сына і сьлёзы выцерла.

— Ну, Якуб, бывай, брат, здаровы! На другую зіму да сябе забяру цябе. Добра?

— Добра, — кіўнуў галавою Якуб.

Маці стаяла на двары і праводзіла вачамі фурманку, што шыбавала ў бок лесу. Лабановіч азірнуўся, памахаў шапкаю мацеры і сёстрам, кіўнуў ім здалёк галавою. Яшчэ раз азірнуўся назад, як пад'язджалі да лесу. Мільгнуў хутарок са сваім алешнічкам, мільгнуў і схаваўся.

працяг будзе.

---

## ЛЮДЗІ ДОБРАЕ ВОЛІ.

"Беларускі Сьвет" атрымаў наступныя грашовыя ахвяры:

| | |
|---|---|
| Сп. М. Міцкевіч | — $20.00 |
| Сп. В. Стома | — $10.00 |
| Сп. П. Кулеш | — $20.00 |
| Сп. Я. Бруцкі | — $20.00 |
| Сп. А. Беленіс | — $25.00 |
| Сп. Ч. Буцька | — $10.00 |

**Вялікае Вам ДЗЯКУЙ!**

*) Гэтыя ахвяры ўключаюць таксама грошы выручаныя з прадажы часапісу "Беларускі Сьвет".



## СЁЕ - ТОЕ... і яшчэ НЕШТА...



Рабіць муху са слана нярэнтабельна: Вельмі многа адыходаў.

Меў толькі аблічча, што ўжо ня помніў, каторае яго.

... Палез за словам у кішэню і дастаў нож.

Вечнай незадаволенасьцю можна альбо дамагчыся таго, чаго хочаце, альбо страціць і тое, што маеце...

Многія нараджаюцца людзьмі, а паміраюць асламі.

У каго сумленьне нячыстае, той і мурашыны тупат чуе.



Быў дакладным: заўсёды спазьняўся.

З двух зайцоў больш палахлівы той, які сьцьвярджае, што ён леў.

Гора лягчэй за ўсе пераЖыць, калі яно чужое.

... Каб ня быў ён славутым, з яго мог-бы выйсьці толк.

Калісь сябры сустракаліся, каб пагаварыць. Цяпер яны зьбіраюцца, каб памаўчаць. Ля тэлевізара.

... Каб самому выглядаць чысьцейшым, ён абліваў брудам іншых.



Хто ідзе за стадам — сваёй сьцежкі не пратопча.

Няма ліха без дабра: прапіў грошы — лягчэйшая кішэня стала.

Усе мы на адным караблі. Шкада толькі, што кожны хоча быць капітанам.

Калі на злодзеі гарыць шапка — не хвалюйцеся: ён украдзе іншую.

# БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ГУМАР



Зямлю за трох ён мог-бы рыць
І рваць дубы з карэньнем,
Ды абапёрся, як стары,
На "кволае стварэньне".

— Слаба чую, спадар доктар. Нават калі чхну, то амаль ня чую.
— Не праймайцеся. Дам добры парашок вам.
— То лепей буду чуць?
— Не, але будзеце мацней чхаць.




### МУХА

Хваліла мёд, як села есьці.
Калі-ж уліпла — стала бесьціць.

### ШКЛЯНКА

Шклянка Пляшцы гаварыла:
— У цубе ня твар, а рыла.

Спадар доктар! Як-жа маецца мой муж?
— Нічога страшнага... Толькі жывот крыху не ў парадку.
— Я так і думала, спадар доктар. У яго нідзе няма парадку. Каб вы бачылі, што робіцца ў яго на стале!..

— Хімічны эксперымент не атрымаўся, але на выстаўцы абстрактнай скульптуры гэтае ў мяне адарвалі б з рукамі.



— Калі тваё вясельле, Галінка?
— Хіба ніколі.
— Чаму гэта так.
— Бо я не хачу йсьці за Сьцяпана, калі ён п'яны, а ён мяне ня хоча, калі цьвярозы.

— Чалавеча, ты-ж зьбіраеш атрутныя грыбы. Іх ніхто ня есьць...
— Э-э-э. Гэта не на яду, а на продаж...

— Гаўрыла, ты чаму ізноў у школу спазьніўся?
— Карову да бычка вадзіў...
— А бацька, што робіць?
— А бацька цялят ня робіць, спадар настаўнік.

— Што гэта сталася з табою, Язэп? Увесь твар маеш у сіняках...
— Бачыш, учора быў падзел спадку, дык я дастаў сваю часьць.

# —жартам кажучы...

### ПАГАВАРЫЛІ...

— Дзень добры, кума!
— На базары была.
— Ты, што, аглухла, напэўна?
— Ага, купіла пеўня.
— Будзь здарова, кума.
— Тры з паловай аддала.





— Будзеш піць?! Будзеш піць?!
— Добра, угаварыла, налівай.



### НІЧОГА СТРАШНАГА

Кастусь пытае доктара Знахарука:
— Скажыце, што ў маёй жонкі?
— Нічога страшнага. Неўроз. З ім яна пражыве да ста год.
— А я? — пытае Кастусь.




*— Калі ласка, праверце яшчэ раз, можа, усё-такі нарадзіўся хлопчык?*

*СТАРАЯ КАЗКА НА НОВЫ ЛАД*



*Цягнуць-пацягнуць, а выцягнуць не могуць.*

